# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1973
Кастрычнік-
Лістапад-
Снежань
Год XXI
№ 4 (138)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1974 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich, 303 Hovard Str., New Brunswik, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W 49-th Str., Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str., Los Angeles, Calif., USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl., New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave., Toronto, Ont. 560, Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. U. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY.,
Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12, азначае North , а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XXI October—November—December № 4 (138)**
**1973**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE.,
LONDON, N. 12, 8 HY., ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XXI КАСТРЫЧНІК—ЛІСТАПАД—СНЕЖАНЬ № 4 (138)

РЭДАКЦЫЯ І АДМІНІСТРАЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» ВІНШУЕ ДАСТОЙНАГА ЎЛАДЫКУ ЧЭСЛАВА, ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ-БЕЛАРУСАЎ З ВЯЛІКІМ СЬВЯТАМ ХРЫСТОВАГА РАЖСТВА І ЖАДАЕ ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1974 ГОДУ!

*а. Я. Г.*

# КАЛЯДЫ



*Пісаў законы Рым старэчы:*
*«Гатунак кожны чалавечы*
*Павінен між сабой сабрацца —*
*Ісьці ці ехаць — расьпісацца —*
*Паводля племені й народу,*
*Хто ад якога выйшаў роду? —*
*Быў гэта — СЬПІСАК ўсеДзяржаўны —*
*Павінен поўны быць і спраўны!»*

*Язэп—Марыя, як вядома,*
*Былі з цара Давіда дому,*
*Дык зналі добра сьцежку гэну —*
*Ішлі хутчэй да Бэтлеему . . .*

*А камяністыя дарогі*
*І ў іх пажытак быў убогі:*
*Сухая рыба, хлеб — прасьняк,*
*Бо й гаспадар Язэп — прасьцяк! —*
*Ледзь асялка прыдбаў ў дарогу*
*І дзякаваў за гэта Богу.*

*А сьцежка проста — ў Божым пляне:*
*Ішлі далінай пры Ярдане,*
*Давідавы сьпявалі псальмы;*
*Ківалі веткамі ім пальмы . . .*

*Дарожка пацягнула ўправа.*
*Была цяжэйшая ўжо справа,*
*Бо трэба дальш у горах лезьці*
*Дый асялка з сабою весьці,*
*А там грабежнікі дарожны . . .*

*Язэп—Марыя шлях набожны*
*Вядуць, як перш: сьпяваюць псальмы,*
*Хоць ня ідуць за імі пальмы. —*
*Аж, кончыўшы ўсю сьцежку гэну,*
*Дайшлі да межаў Бэтлеему.*

*

*Язэп знаёмых меў тут, родных*
*Дый іншых блізкіх; дый ніводны*
*Ня даў прыпынку, ні куточка,*
*Ні месца вольнага кусочка! —*
*Былі ўсе логвішчы заняты,*
*Хто першы здарыўся й багаты.*

*Казалі ім: «Няма ўжо месца!» —*
*Аж ня было куды падзецца . . .*

*Дзяржаўны сьпісак, так як сьвята,*
*К а л я д ы — ноч халаднавата.*
*У маестаце ціхой ночы*
*Мільярды зорак жмурацъ вочы:*
*Шчарбаты месяц між усімі*
*Плыве як лодачка між імі.*

*Язэп—Марыя ў горкай долі*
*Даліся ў рукі Божай волі:*
*Язэп вядзе, хоць рад-наряд,*
*Марыю дальш на уздагад —*
*Аж бачуць там прытон ціхі,*
*Дзе пілігрымы й пастухі*
*Хаваліся падчас нягоды*
*Ад грому, буры, непагоды . . .*

*Язэп—Марыя, як здаецца,*
*Хацелі крышку тут сагрэцца:*
*Дый тут жа выбіла гадзіна,*
*Што ДЗЕВА НАРАДЗІЛА СЫНА!*

*

*У бэтлеемскай ночы цёмнай —*
*У поўнай цішыні таёмнай —*
*Прыйшло сусьветнае здарэньне —*
*К а л я д ы — Божа Нараджэньне!*
*ДЗІЦЯ ад Бога абяцана*
*Прыйшло для сьвету даравана. —*

*Не знала Матка, дзе пакласьці*
*Сваё і сьвету ўсяго Ш ч а с ь ц е ?*
*У яслі, ў жолаб палажыла,*
*Дасюль для быдла што служыла.*
*У сьлёзах радасьць была поўна*
*І для зямлі, для неба роўна! . .*

*

*А пастухі ў сваей нядолі*
*На пашы начавалі ў полі;*
*Дый ціха — ціханька драмалі,*
*Што стала ў ясьлях, знаць не зналі . . .*

*Аж раптам анёл ім зьявіўся*
*І абвясьціў — разгаварыўся:*

*«Паслухайце вы вестку гэту:*
*Радзіўся вам Збавіцель сьвету,*
*Здаўна ў прароцтвах прадказаны, —*
*Цару-Давіду абяцаны. —*
*На небе радасьць, на зямлі,*
*А вы шчасьліва дажылі:*
*Хутчэй бяжыце, — ў Бэтлееме —*
*Пабачыць радасьць і надзею, —*
*Паклон Дзіцятку там давайце,*
*Прытым вясёла засьпявайце:*

*«Хвала Богу на вышынях,*
*А людзям мір на нізінах! . .»*

*С пастушкамі, голаў-у-голаў,*
*Сьпяваў дружны хор анёлаў —*

*Так вясёла, так сугучна*
*Зямля й неба згодна, лучна*
*Бога славілі й Дзіцятка*
*І Яго сьвятую Матку.*

*„Gloria, Gloria, Gloria*
*In excelsis Deo!“*

---

*а. Т. Падзява*

# Добрая навіна

## БОГ ТВОРЫЦЬ БАЧНЫ СЬВЕТ

### VI-ая КАТЭХЭЗА

Сьвятое Пісаньне пачынаецца словамі: «На пачатку Бог стварыў неба і зямлю». (Быцьцё 1).

Божае аб’яўленьне перададзена праз Патрыярхаў і праз жыдоўскі народ, а запісанае ў Сьвятым Пісаньні і вучыць, што *Бог стварыў сьвет:* «Словам Божым неба паўстала і ўсе іхныя хоры падыхам Ягоных вуснаў. Бо Ён сказаў і ўсё паўстала. Ён Сам загадаў і яны пачалі існаваць». (Пс. 32, 6-9).

Богу ня быў патрэбны матар’ял, ані прылады, ані памацнікі. Гэтакае дзеяньне называецца «стварэньнем»; а таго, хто гэта робіць, мы называем «Стварыцелям». Стварацъ можа толькі БОГ, бо Ён ёсьць *Усёмагутны.* Што

толькі Бог захоча, усё робіцца паводля ягонае волі.

Праўду аб стварэньні сьвету Бог аб'явіў людзям, каб чалавек ведаў, што залежыць ад Бога, як ад свайго Стварыцеля і Гаспадара.

На пачатку Сьвятога Пісаньня, у Кнізе Быцьця, апісана стварэньне сьвету. Гісторыя самога стварэньня — гэта ёсьць п а э м а, напісаная натхнёным аўтарам, згодна з паняцьцем таго часу і гэтая паэма ёсьць доказам старадаўнасьці Сьвятога Пісаньня.

Мы ведаем і верым, што Бог стварыў сьвет; а як Ён выканаў, мы ня ведаем; але аўтар Кнігі прадставіў Бога які творыць сьвет у шэсьць дзён, а ў сёмы адпачыў. З гэтага выплывае наступная навука:

1) Бог стварыў сьвет.

2) Бог паставіў законы, якія кіруюць прыродай і чалавекам.

3) Сьвет ёсьць добрым, бо яго стварыў добры Бог.

4) У кожны сёмы дзень трэба адпачыць і пасьвяціць сёмы дзень Богу.

*

У сьвятой Літургіі Царква часта славіць Бога як Стварыцеля. У Пісаньні — у псальмах выяўляецца мудрасьць і магутнасьць Бога, напрыклад у псальме 103.

«Багаславі, душа мая, Госпада! Божа мой, Ты вялікі на зьдзіў. У веліч і красу апрануўся Ты».

«Якжа многа, о Госпадзе, твораў тваіх! Усё Ты прамудра стварыў, зямля поўна твораў тваіх».

Пашану і абажаньне, належнае толькі Богу, мы завём *адарацыяй*. Калі Царква сьвяціць або багаслаўляе асобы або рэчы, тады ўспамінае Бога Стварыцеля неба й зямлі: «Божа-Успамога, у імя Госпада, Які стварыў неба і зямлю». (Пс. 125, 8).

Да малітвы належцыь так называны Сымбаль Веры, які пачынаецца словамі: «Веру ў Бога, Айца Усёмагутнага, Стварыцеля неба і зямлі».

*

НАШ АДКАЗ БОГУ: Калі думаю аб Богу, стараюся трымацца пакорна дый пабожна, бо пашана і абажаньне ёсьць маім абавязкам адносна да Бога, як майго Стварыцеля дый Валадара.

ПРЫКЛАДЫ МАЛІТВЫ: «Багаслаўце Госпада ўсе творы Ягоныя па ўсіх месцах Валадарства Ягонага, Багаслаў і ты, душа мая, Госпада!

Узвышаць Цябе буду, мой Божа і Цару і імя Тваё славіць буду навекі.

Багаслаўляць Цябе буду штодня і імя Тваё на векі-вечныя!

Вялікі Госпад і годны хвалы, а веліч Яго недасягненая.

Няхай хваляць Цябе ўсе творы твае і Сьвятыя твае няхай славяць Цябе!

Хвалу Госпада гаварыць будуць мае вусны і славіць сьвятое імя Яго на векі!

Выслаўляй душа мая, Госпада! Хваліць буду Госпада, пакуль жыву; сьпяваць буду Богу майму, пакуль існую.

Аллілуя! Хваліце Госпада з неба, хваліце Яго на нябесных вышнях!

Хваліце Яго ўсе Ягоныя анёлы! Хваліце Яго ўсе Ягоныя войскі!

Хваліце Яго сонца і месяц, хваліце Яго ўсе ясныя зоры!

Хваліце Яго нябёсы-нябёсаў і вы, воды, што пад нябёсамі!

Няхай яны хваляць імя Госпада, бо Ён загадаў і яны стварыліся, і паставіў іх на ўсе часы і вякі, — даў ім закон і ня пераступаюць яго.

Хваліце Госпада на зямлі, страхоцьці марскія і ўся бездань!

Агонь і град, сьнег і туман і ты вецер буйны, што загад Ягоны выпаўняеш. Вы, горы і ўзгоркі ўсе; вы, дрэвы фруктовыя і кедры ўсе; вы, зьвяры дзікія і кожная жывёла; вы, гады і крылатыя птушкі; вы, зямныя цары і ўсе народы, князі і ўсе судзьдзі зямлі; вы, юнакі, вы, дзяўчаты, старыя ды разам з малымі!

Хваліце імя Гасподняе, бо толькі Ягонае імя узвышана: бляск Яго над зямлёй і небам!»

*

ПАРАЎНАЙ гэтыя малітвы з іншымі текстамі Сьв. Пісаньня! Напрыклад у Кнізе Іова: «Спытайце ў зьвяроў — навучаць. І нябесныя птушкі скажуць табе. Неразумнае стварэньне выясьніць і марскія рыбы высьвятляць. Бо хто ж з іх ня ведае, што ўсё зрабіў Ягвэ (жыдоўскае імя Бога) (Іова 12, 7-9). Кожны дом мусіў нехта збудаваць, а Бог збудаваў у с ё» (Жыд. 3, 4).

УВАГА: Люздей вельмі цікавіць пачатак сьвету. Адны цьвердзяць, што сьвет існаваў заўсёды, што матэрыя («матар'ял) існуе вечна і з матэрыі разьвіваецца ўсё. Другія ўважаюць, што Бог стварыў матэрыю і даў ёй законы, згодна з якімі разьвіваецца. Гэтак даходзім да выснаву, што першым пачаткам усяго ёсьць Бог.

Гэтак і сьвяты Павал выводзіць: «Нябачныя Ягоныя рэчы, прадвечная Ягоная магут-

насьць і Божства ад стварэньня сьвету праз Ягоныя твары сталіся відавочнымі — бачнымі для розуму». (Ліст да Рымлян 1, 20. Кніга Мудр. 13).

ПЫТАНЬНІ:

9) Скуль узяўся сьвет?

АДКАЗ: Сьвет бярэ свой пачатак ад Бога.

10) Скуль мы ведаем аб стварэньні сьвету?

АДКАЗ: Аб стварэньні сьвету мы ведаем са Сьв. Пісаньня дый наш розум кажа нам пра гэта.

11) Што кажа нам стварэньне сьвету пра Бога?

АДКАЗ: Са стварэньня сьвету разумеем, што Бог ёсьць усёмагутны.

*

## БОГ СТВАРАЕ ДУХОВЫ СЬВЕТ

### VII-ая КАТЭХЭЗА

У Псальме 102 мы чытаем:

«Багаслаўце Госпада, усе Ягоныя анёлы, сільныя волаты, што Ягоныя загады выпаўняеце, пакорныя голасу слова Ягонага!

«Багаслаўце Госпада, усе войскі Ягоныя, слугі Яго, што волю Яго выпаўняеце! (Пс. 102, 20-21).

*

Хто такія анёлы? Божае Аб'яўленьне нас вучыць, што існуюць нявідавочныя і несьмяротныя Божыя стварэньні, якія маюць розум і волю, але не маюць цела. Бог стварыў іх, каб падзяліцца з імі сваім шчасьцем. Бог даў ім такую прыроду, што яны знаходзяць сваё шчасьце, калі выпаўняюць Ягоныя загады — служаць Яму, выказваюць Яму сваю пашану дый любяць Яго.

Аднак ня ўсе анёлы пагадзіліся з гэтым Божым плянам. Будучы, як і мы — людзі свободнымі, не хацеў іх Бог рабіць шчасьлівымі пад прымусам, але даў ім магчымасьць прыняць свабодна прыгатаванае ім шчасьце. Некаторыя з іх, нават самыя прыгожыя, захацелі самі для сябе пашукаць шчасьця ў чым іншым — у непаслушэнстве Богу, у любасьці сябе, замест Бога. Яны думалі, што Бог да шчасьця непатрэбны. За гэта спаткала іх справядлівая кара: яны сталіся вечна нешчасьлівымі. Гэтак яны страцілі духоўную прыгожасьць і сьвятасьць. Яны не захацелі любіць Бога, дык Бог не дае супраць іх волі магчымасьці любіць Яго.

Ад гэтага грэшныя анёлы пераносяць страшэнную муку, якая завецца пеклам. З ненавісьці да Бога яны ненавідзяць і людзей, якіх Бог стварыў падобнымі да Сябе. Са злосьці да Бога яны стараюцца бунтаваць няпраўдай і ашуканствам людзей супраць Бога, каб і людзі не асягнулі шчасьця, якое ім Бог вызначыў. Гэтак збунтаванаму анёлу ўдалося ашукаць ужо першых людзей у раі і ад таго часу ўсе людзі найбольш шукаюць шчасьця ня там, дзе яго можна знайсьці, значыць, у паслушэнстве Богу, а шукаюць у грахох. Таму Сьвятое Пісаньне называе збунтаванага анёла ворагам, па гэбрайску шатан. Каб адрожніць іх ад добрых анёлаў, усіх дрэнных мы называем д'ябламі, чартамі і наагул нячыстымі, або злымі анёламі.

Само слова анёл азначае тоесамае, што па беларуску пасланец, таму што Бог пасылае іх да людзей, як сваіх слуг, а ўгэтым анёлы знаходзяць сваё шчасьце, хоць Сам Бог мог бы ўсё рабіць і не патрабуе для Сябе памацнікоў. Пазваляючы Сабе памагаць, Бог дзеліцца са сваімі слугамі Сваім шчасьцем. Анёлы шчасьлівыя, што любяць Бога. Таму Хрыстос казаў, што анёлы «на небе заўсёды бачуць аблічча Майго нябеснага Айца» (Мат. 18, 10). Сьвятому Паўлу было аб'яўлена, што «ўсе яны — служачыя духі, пасланыя на служэньне тым, што маюць унасьледаваць збаўленьне». (Жыд. 1, 14).

Сьвет анёлаў вельмі багаты. Магчыма, шмат большы, чым нашага бачнага сусьвету. Мы бачым толькі тры царства: мінэралаў, расьлін і зьвяроў, да якога належыць і чалавек, але толькі целам. Сваей душой чалавек ужо жыве ў сьвеце духовым, аб якім Сьв. Пісаньне кажа — дзевяць царстваў анёлаў, якія завуцца: Сэрафіны, Хэрубіны, Троны, Валадарствы, Княжствы, Улады, Моцы, Анёлы і Арханёлы. Анёл ёсьць духам і перавышае ўсе іншыя стварэньні, будучы залежным толькі ад Бога, які ёсьць нястворaным і вечным.

*

Сьв. Пісаньне расказвае таксама аб змаганьні, якое адбылося калісьці паміж добрымі і збунтаванымі анёламі. Правадыром анёлаў быў Арханёл Міхал, які затое называецца Правадыром нябеснага войска. У гісторыі Выратаваньня з важнымі паручэньнямі ад Бога зьяўляліся: шмат разоў Арханёл Габрыель, а часамі Рафаэль. Габрыель прынёс вестку ад Бога Дзеве Марыі, што Бог выбраў яе на Матку Свайму Сыну, які на небе нарадзіўся прадвечна аб Бога Айца, без Маці, а на зямлі — ад Маці без Айца.

У кнізе Табіяша апісана зьяўленьне Арханёла Рафаэля, а таксама цудоўнае падарож-

жа, у якім падтрымліваў і бараніў маладога Табіяша ў трагічных прыгодах.

Анёлы ёсьць нашымі апякунамі й прыяцелямі. Кожнаму чалавеку Бог дае асобнага Вартаўніка, які заўсёды пры ім прабывае, сьцеражэ ад злога і перасьцерагае, наколькі гэта не нарушае веры і обычаяў. Анёл ня творыць цудаў, а толькі даводзіць да зразуменьня і пазнаньня верай, каб чалавек заўсёды аставаўся свабодным. А цуды толькі тады ня бываюць прымусам, калі чалавек сам жадае і моліцца пра тое, чаго патрабуе. Таму можна клікаць і прасіць свайго анёла-Вартаўніка аб больш ясную, бачную помач і ён нам гэтую помач акажа і думку падкажа, калі толькі мы будзем мець дастатковую веру.

*

Царква часта лучыцца з анёламі, калі славіць Бога ў малітвах, ужываючы слоў, якія пракокі чулі ў захапленьні ад анёлаў, што сьпявалі перад Божым тронам. Напрыклад: «Сьвяты, Сьвяты, Сьвяты Госпад, Бог войскаў нябесных! Неба і зямля поўныя Тваей Славы». Або песьню, якую чулі пастухі, калі анёлы сьпявалі ўночы нараджэньня Хрыста: «Слава на вышынах Богу, а на зямлі мір у людзей добрай волі» (Лука 2, 13).

У Літургіі Ўсходняе Царквы даецца вельмі прыгожая песьня, званая хэрубінавай: «Мы, што таёмна прадстаўляем хэрубінаў і пяём тройчы сьвятую песьню жыватворчай Тройцы, — адложым усяляку жыцьцёвую турботу, каб прыняць Валадара ўсіх, Якога нябачна нясуць войскі анёлаў».

Царква устанавіла ў чэсьць анёлаў адумысловыя сьвяткі, каб славіць Бога ў пашане, аказанай Ягоным анёлам.

*

ПЫТАНЬНІ:

12) Каго мы называем анёламі?

АДКАЗ:

Анёламі называем духаў паслушных Богу.

13) Чаму Бог даў кожнаму анёла-Вартаўніка?

АДКАЗ:

Каб нас сьцярог і напамінаў у небасьпецы; а калі самі просім, каб нам памагаў асягнуць вечнае жыцьцё.

14) А хто такія чэрці?

АДКАЗ:

Чэрці — гэта збунтаваныя анёлы, якія ня любяць Бога і стараюцца фалшам і спакусай адвесьці людзей ад Бога.

---

*а. Аляксандар Надсон*

# Беларускія буквары XVII стагоддзя

Сярод беларускіх школьных падручнікаў XVII ст. асобую групу становяць сем буквароў, якія былі выданыя ў часе паміж 1636 і 1653 гг. Усе яны маюць аднолькавы тытул — «Букварь языка славенска, писанїй чтенїя учитися хотящим в полезное руковожен̈іе», — і амаль той самы зьмест. Першы буквар з гэтай групы быў выданы Спірыдонам Собалем у 1636 г. у Магілёве. Віленскае праваслаўнае брацтва выпусьціла тры выданьні буквара — у 1640, 1645 і 1652 гг.; два выданьні — у 1648 і 1649 гг., — зрабіла Магілёўскае праваслаўнае брацтва, і апошняе выданьне выйшла ў 1653 г. з друкарні Куцеінскага манастыра.

Перад апошняй сусьветнай вайною былі ведамы толькі два буквары — Собаля 1636 г. і Віленскі 1652 г.[1]). Пачынаючы ад 1951 г. у бібліятэках Упсалі, Готы, Дубліна і Брытанскага музэю ў Лёндане былі знойдзены экзэмпляры пяці іншых буквароў, чатыры з якіх зьяўляюцца ўнікальнымі[2]).

Тытул «Букварь языка славенска . . .» быў упершыню ўжыты ў Еўеўскім буквары

[1]) И. Каратаев. Описание славяно-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами. СПб., 1883. № 437, 683.

[2]) Унікальныя экзэмпляры букварoў Віленскага 1645 і Магілёўскага 1649 былі знойдзены ў 1951 г. у бібліятэцы Упсальскага унівэрсытэту Л. Чельбэргам (L. Kjellberg. Catalogue des imprimés slavons des XVIe, XVIIe et XVIIIe siecles conserves a la Bibliotheque de l'Université Royale d'Uppsala. Uppsala, 1951. No. 47, 59; таксама J. D. Barnicot and J. S. G. Simmvns. SomeeUnrecorded Early-printed Slavonic Books in English Libraries. „Oxford Slavonic Papers“. Vol. II, 1951, стар. 114, No. 18). Пра таксама унікальны экзэмпляр Магілёўскага буквара 1648 г. у бібліятэцы гораду Гота стала ведама ў 1961 г. (H. Claus. Slavia-Katalog der Landesbibliothek Gotha. Berlin, 1961. No. 188). Экзэмпляр Куцеінскага буквара 1653 г. у бібліятэцы Марша ў Дубліне быў знойдзены ў 1963 г. Дж. Сімансам, які зрабіў таксама дакладнае апісаньне гэтага выданьня (Джон С. Г. Симмонс. О некоторых старопечатных кириллических книгах в Дублине. Книга. Исследования и материалы». СПб. VIII. Москва, 1963, стар. 247—253. Пасьля было знойдзена




Віленскі буквар 1640 г.
Тытульны ліст




Магілёўскі буквар 1649 г.
Тытульны ліст

1618 г.[3]). Аўтар гэтага артыкулу меў магчымасьць пазнаёміцца з тэкстамі трох буквароў — Віленскага 1640 г., Магілёўскага 1649 г. і Куцеінскага 1653 г., — і параўнаць іх з Еўеўскім выданьнем[4]).

Віленскі буквар 1640 г. мае 36 ненумараваных лістоў разьмерам у васьмёрку. Ён складаецца з сшыткаў $А^8Б^8В^8Г^8Д^4$ з сігнатурамі на першых чатырох лістах кожнага сшытка. Калантытулаў няма, але ёсьць кустоды ў правым ніжнім рагу кожнай старонкі. Друкаваная старонка тэксту мае 14 або 15 (л. 13а) радкоў. Разьмер друкаванай сторонкі 112 (120 з сігнатурай і кустодам) x 75 мм. Вышыня 10 радкоў шрыфту 83 мм. у тэксце, 59 і 45 мм. у загалоўках.

Магілёўскі і Куцеінскі буквары вельмі падобныя. Гэта таксама кніжачкі разьмерам у васьмёрку, але маюць толькі па 32 ненумараваныя лісты і складаюцца з сшыткаў $А^4Б^8В^8Г^8$ з азначэньнем сігнатур на першых пяці лістах кожнага сшытка. Калантытулаў няма, але у вярху кожнай поўнай старонкі ёсьць маленькае ўпрыгожаньне (розныя ў Магілёў-

некалькі іншых экзэмпляраў гэтага буквара. сярод іх адзін у Брытанскім музэі ў Лёндане аўтарам гэтага артыкулу. які таксама выявіў там унікальны экзэмпляр Віленскага буквара 1640 г.

³) А. Надсон. Еўеўскі буквар 1618 г. «Божым шляхам». № 1, 1973, стар. 3—9.

⁴) Для апісаньня букварoў Віленскага 1640 г. і Куцеінскага 1653 г. паслужылі экзэмпляры гэтых выданьняў у Брытанскім музэі ў Лёндане. Аўтар таксама карыстаўся выдатным апісаньнем Куцеінскага буквара, зробленым Дж. Сімансам (гл. я г о О некоторых старопечатных кириллических книгах . . .), якое яму служыла за ўзор. Апісаньне Магілёўскага буквара 1649 г. зроблена з фатакопіі, ласкава прысланай аўтару кіраўніком замежнага аддзелу бібліятэкі Упсальскага унівэрсытэту Л. Чельбэргам, за што аўтар складае яму шчырую падзяку.

скім і Куцеінскім выданьнях) з наборнага арнамэнту. Кустоды ў правым ніжнім рагу кожнай старонкі. Старонка мае 14 радкоў. Разьмер друкаванай старонкі 110 (130 з упрыгожаньнем, сігнатурай і кустодам) х 73 мм. Вышыня 10 радкоў шрыфту 82 мм. у тэксце, 62 мм. у загалоўках. Наогул шрыфт абодвух выданьняў вельмі падобны.

Зьмест трох буквароў у параўнаньні з Еўеўскім найлепш відаць з наступнай табліцы:

| Зьмест: | Еўе 1618 | Вільня 1640 | Магілёў 1649 | Куцеіна 1653 |
|---|---|---|---|---|
| Слава святой . . . Троицы | л. 2 | 2 | 2 | 2 |
| Буква или писмена | 2а | 2а | 2а | 2а |
| Слози двописменныи от согласных начинаемыи | 3 | 3 | 3 | 3 |
| Слози двописменныи от гласных начинаемыи | 5 | — | — | — |
| Слози триписменныи | 5 | 4а | 4 | 4 |
| Во исправленїе языка отрочате слози необычныи | 5а | — | — | — |
| Слози знаменательныи треписменныи | 6 | 4а | 4а | 4а |
| Слози четвеописменныи . . . девятописменныи | 6 | — | — | — |
| Слози сливаемыи | 7 | — | — | — |
| Во исправленїе языка отрочате слози словес под титлами | — | 5 | 5 | 5 |
| Писмена гласная . . . | 7 | — | — | — |
| Просодїя | 7а | — | — | — |
| Препинанїе строчное | 8 | — | — | — |
| Число | 8 | — | — | — |
| Парадеїґмата пяти славенския грамматїки склоненїй | 9 | — | — | — |
| Молитвы. Слава святой . . . Царю небесный . . . Отче наш . . . Приидѣте поклонѣмся . . . | 25 | 7 | 7 | 7 |
| Помилуй мя Боже (Пс. 50) | — | 8а | 8а | 8а |
| От сна восстав . . . Троичен, Господи сый . . . Ангелский собор . . . | 26а | 10а | — | — |
| Преблагословенна еси . . . | 30 | 14а | 10а | 10а |
| Слава во вышних Богу . . . | 30а | 14а | 11 | 11 |
| Символ православныя вѣры: Символ преосвященнаго Афанасїа; Исповѣданїе православныя вѣры . . . Амвросїа Медїоланскаго и Августїна Гїппонскаго . . . | 33а | 18 | 14 | 14 |
| Десятословїе; Две заповѣди ветхаго Завѣта; Шесть совершенства новаго завѣта; Девять блаженства | 40 | 24 | 20а | 20а |
| Три добродѣтели Богословїа; Четыри добродѣтели евангелския . . . Пять чувств телесных; Четыри вещи последнїи | 47а | 32 | 27а | 27а |
| О знаменїи крестном (па-беларуску) | 50 | — | — | — |
| Молитвы от сна восстав | — | 34 | 30 | 30 |
| Молитвы на нощь | — | 35а | 31а | 31а |
| (Число) | 52а | 36а | — | — |

З апісаньняў іншых буквароў выглядае, што Віленскі буквар 1645 г. мае зьмест ідэнтычны з Віленскім букварам 1640 г., а буквары Собаля 1636 г. і Магілёўскі 1648 г. — з Магілёўскім 1649 г. і Куцеінскім 1653 г.[5]).

З прыведзенай вышэй табліцы відаць, што ў аснову ўсіх пазьнейшых выданьняў буквароў лягло Еаўеўскае выдан«не 1618 г. у моцна скарочаным і часткова зьмененым відзе. У прыватнасьці у іх адсутнічае ўся граматычная частка («Парадиґмата»), а беларускі тэкст да чытаньня «О знаменіи крестном» заменены дадатковымі малітвамі на царкоўнаславянскай мове. Зроблены таксама некато-

[5]) Апісаньне буквара Собаля 1636 г. гл.: М. Батвіннік. Магілёўскі буквар. «Маладосць». № 1, Мінск, 1973, стар. 144; Симмонс. О некоторых старопечатных кириллических книгах . . ., стар. 253. Пра Віленскі буквар 1645 г. гл. той-жа арткыул Сіманса (стар. 253), а таксама: А. С. Зернова. Книги кирилловской печати, хранящиеся в заграничных библиотеках и неизвестные в русской библиографии. «Труды» (Гос. библиотека СССР им. В. И. Ленина). Т. II, Москва, 1958, стар. 33. Пра Магілёўскі буквар 1643 г. гл.: Е. Л. Немировский. Заметки о славянском старопечатании. «Книга и графика». Москва 1972, стар. 105.




*Лл. 2а-3*




*Лл. 13а-14*

*Віленскі буквар 1640 г.*




Слава стѣй единосущнѣй, животворящей нераздѣлимѣй Троцы, Оцу и Сну и стому Дху, нинѣ и присно и въ вѣки вѣкомъ, аминь.

Млтвъ ради Пречтыя ти мтре, и всѣхъ стыхъ, Гди Іс Хе Бже нашъ помилуй насъ, аминь.

А б Бу

*Лл. 1а-2*

С

Стъ, слнце, срце, срчный, стрть, смрть, свщенникъ.

Т

Трца, троичскъ, троичей, трт, тртый.

Ѹ

Ѹчтль, ѹчнкъ, ѹчнцы.

Х Хс, хвъ, хртїанскїй.

Ѿ Ѿцъ, ѿчъ, ѿчтвъ, ѿческїй.

Ц Црь, црца, црко, црство.

Ч Чкъ, члвчъ, члчкїй, чть, чтенъ.

Ѿ

МОЛИТВЫ

Слава стѣй единосущнѣй.

И прочая положенная въ началѣ.

Слава тебѣ Бже нашъ, слава тебѣ.

Црю нбный, утѣшителю дше истинный: иже вездѣ сый и вся исполняяй: сокровище благихъ и жизни подателю: прїиди и вселися въ ны, и очи

сти

*Лл. 6а-7*

*Магілёўскі буквар 1649 г.*

рыя зьмены ў букварнай частцы. У параграфе «Буква или писмена» у Еўеўскім буквары даюцца малыя літары алфавіту перш у звычайным парадку, а пасьля ў адваротным. Пазьнейшыя буквары маюць яшчэ трэцюю групу вялікіх літар у звычайным парадку. У Еўеўскім буквары няма таксама параграфу «Слози словес под титлами», у якім даюцца ў алфавітным парадку найбольш пашыраныя словы, якія пісаліся ў скарочаным відзе. Для азначэньня скароту над гэтымі словамі стаўлялася хвалістая лінія, якая называлася «цітла». Згодна з правіламі царкоўнаславянскай арфаграфіі «пад цітламі» пісаліся словы рэлігійнага характару, якія азначалі асоб або прадметы асаблівай сьвятасьці і пашаны. Словы са значэньнем нечага дрэннага, грэшнага, пісаліся заўсёды поўнасьцю.

Існуюць некаторыя розьніцы паміж Віленскім букваром з аднаго боку і Магілёўскім і Куцеінскім з другога. У Віленскім буквары алфавіт мае літару «ґ», а ў канцы л. 2а, пасьля алфавіту ў адваротным парадку, даюцца напісаньні знакаў прыпынку. Апрача гэтага ў ім ёсьць некаторыя дадатковыя малітвы (лл. 10а—14). Усё гэта адсутнічае ў двух іншых выданьнях.

Буквары значна розьняцца між сабою мастацкім афармленьнем. Магілёўскі буквар выглядае вельмі скромна. Апрача гравюры св. Евангеліста Лукі (л. 1а; разьмер 80 х 53 мм.) і 17 ініцыялаў з 13 дошак, усе іншыя ўпрыгожаньні, у тым ліку своеасаблівыя «застаўкі» (лл. 2 і 7), складаюцца з элемэнтаў стандартнага наборнага арнамэнту. Прыблізна тое самае можна сказаць пра Куцеінскі буквар з ягонай гравюрай св. Рыгора Багаслова (л. 1а; 106 х 72 мм.) і 18 ініцыяламі з 13 дошак, іншых ад Магілёўскіх. Апрача гэтага ў ім ёсьць два адбіткі адной застаўкі (лл. 2 і 7; 23 х 58 мм.) з даволі прыгожым кветкавым рысункам.

Віленскі буквар 1640 г. (і, калі можна судзіць па апісаньнях, выданьні 1645 і 1652 гг.) зьвяртае на сябе ўвагу сваей мастацкай вонкавай формаю. У ім шэсьць гравюраў велічынёй на ўсю старонку: св. Васіля Вялікага (л. 1а; 128 х 72 мм.), св. Яна Залатавуснага (л. 6а; 126 х 68 мм.), Уваскрашэньня (л. 12а; 133 х 75 мм.), Укрыжаваньня (л. 17а; 135 х 75 мм.), Караля Давіда на троне (л. 26а; 116 х 75 мм.) і св. Апостала Мацьвея (л. 30а; 116 х 72 мм.). Апрача гэтага буквар мае дзьве маленькія авальныя гравюры ў прастакутных арнамэнтальных рамках з традыцыйным вобразам св Тройцы ў выглядзе трох анёлаў (л. 2 у застаўцы і 13а; 30 х 40 мм.) і зыходу св. Духа (л. 7; 30 х 40 мм.); крыху большую авальную гравюру Давіда, які моліцца, стоячы на каленях (л. 8а; вышыня 52 мм.); прастакутную гравюру св. Пятра (л. 13а; 50 х 16 мм.) і другую, падобную ёй, з св. Паўлам (там жа; 50 х 16 мм.); і, нарэшце, прыгожую гравюру Багародзіцы ў вянку з кветак, якія напамінаюць васількі (л. 14; 45 х 43 мм.)[6]. 16 віленскіх ініцыялаў з 12 дошак — некаторыя з іх Скарынінскія, або іх блізкія копіі, — і наборны арнамэнт дапаўняюць мастацкае афармленьне буквара. Усё гэта робіць гэтую маленькую кніжку выдатным помнікам беларускага кнігадрукаваньня XVII ст.

Тут трэба мімаходам успомніць пра яшчэ адзін падручнік, «Букварь, сиречь начало ученія детем, начинающим чтенію извыкати», выданы Спірыдонам Собалем у 1631 г. у Куцеіне[7]). Тэкст яго, калі можна судзіць па апісаньнях, зьяўляецца ў вялікай меры паўтарэньнем тэксту Еўеўскага буквара, хоць паміж гэтымі двума выданьнямі існуюць таксама паважныя разыходжаньні. З другога боку ён больш абшырны за пазьнейшыя буквары, не кажучы ўжо пра тое, што ён розьніцца ад іх (і ад Еўеўскага буквара) сваім тытулам Магчыма Куцеінскі буквар 1631 г. трэба лічыць прамежкавым зьвяном у разьвіцьці беларускіх буквароў ад Еўеўскага выданьня да іх канчатковай формы.

Усе пазьнейшыя буквары далёка карацейшыя за Еўеўскі і ў іх адчуваецца перавага рэлігійных тэкстаў над граматычнымі. Нават новы параграф «Слози словес под титлами», якога няма ў Еўеўскім буквары, толькі падкрэсьлівае іхнюю рэлігійную накіраванасьць. Няма ў іх таксама тэкстаў да чытаньня на беларускай мове. Прычыну гэтага магчыма трэба шукаць у тагачасных моўных адносінах у Беларусі. У канцы XVI і пачатку XVII стагоддзяў беларуская мова была яшчэ вельмі пашырана ў справаводстве і ўсіх афіцыялных зносінах у Вялікім Княстве Літоўскім. У палове XVII ст. афіцыяльнае становішча беларускай мовы, загварантаванае Літоўскім Статутам, аставалася без змен, але ў практыцы яна ўсё больш і больш уступала месца польскай. Таму магчыма ў праваслаўных брацкіх школах пачалі зьвяртаць менш

[6]) Некаторыя гравюры буквара сустракаюцца у ранейшых віленскіх брацкіх выданьнях. Так гравюры Давіда на троне і св. Апостала Мацьвея знаходзяцца ў кнізе «Новый Завѣт» 1623 г., а гравюра Уваскрашэньня — у кнізе «Акафисты» 1628 г. У застаўках гэтага апошняга выданьня ўжыта таксама два разы гравюра Багародзіцы.

[7]) Апісаньне гэтага выданьня гл. И. Свенцицкий. Каталог книг церковно-славянской печати. Жовква, 1908, № 569; М. Батвіннік. Куцеінскі буквар. «Народная асвета». № 12, Мінск 1972, стар. 86—87.

увагі на навучаньне беларускай мовы, а клалі большы націск на веданьне царкоўнаславянскай, як патрэбнай ня толькі для разуменьня царкоўных службаў, але для захаваньня праваслаўя, якое знаходзілася ў тым часе ў Беларусі ў даволі цяжкім становішчы.

Ангельскі вучоны Джон Сіманс, апісваючы Куцеінскі буквар 1653 г., высказаў думку, што ён належыць да беларускай традыцыі, якая ўстанавілася ў 1630-х гадах[8]). Тое самае можна сказаць пра ўсе іншыя буквары таго часу з той толькі папраўкай, што пачатак беларускай традыцыі трэба аднесьці да 1618 г. Вывучэньне гэтых выданьняў мае вялікую цікавасьць для гісторыі беларускай асьветы, кнігадрукаваньня і беларускай культуры наогул[9]).

---

[8]) Симмонс. О некоторых старопечатных кириллических книгах..., стар. 253.

[9]) Аўтар дзякуе кіраўніцтвам Брытанскага музэю і бібліятэкі Упсальскага унівэрсытэту за дазвол зрабіць рэпродукцыі з букварoў Віленскага 1640 г. і Магілёўскага 1649 г. Рэпрадукцыі тытульных старонак натуральнай велічыні. Усе іншыя крыху зьменшаныя.

---

# З нагоды выхаду з друку „Біблі“

Перад намі кніга ў чорным пераплёце, з залатымі літарамі — надрукам, без ніякіх іншых аздобаў або хрысьціянскіх сымбаляў. Поўны назоў кнігі:

«Сьвятая Бібля, кнігі сьвятога Пісьма старога й новага закону. З мовы гэбрэйскае а грэцкае на вялікалітоўскую (беларускую) нанава перакладзеныя. У Ню Ёрку 1973».

На адвароце гэтага самага ліста чытаем, хто зьяўляецца выдаўцом кнігі: Francis Skoryna Greatlitvan (Bielarus) Society of Arts and Sciences in the U.S., Inc.

Кніга мае больш дзьве тысячы старонак, дакладна Стары Закон налічвае 839, а Новы 260.

Беларусы стаяць перад фактам даканаьным, бо усе, хто толькі зажадае, могуць мець у сваіх руках «Біблю» на вялікалітоўскай (беларускай) мове. Таму варта прысьвяціць ёй больш увагі.

Разглядаць будзем зьяву ў наступным парадку:

1) Гісторыя «Біблі».

2) Няпоўнасьць яе.

3) Дадатнія і адмоўныя рысы нававыданай кнігі.

4) Патрэба беларускай супольнай (экумэнічнай) Бібліі.

1.

Гісторыя «Біблі» нам ведамая (не ва ўсіх дэталях) з прыватнай карэспандэнцыі з др. Гітліным, з др. Я. Станкевічам, з Брытыйскім Біблійным Таварыствам і з прэсы.

Пасьля апошняй сусьветнай вайны паўстала добрая думка перакласьці і выдаць Біблію у сучаснай беларускай мове. Да такой працы эміграцыя забавязана маральна, бо на бацькаўшчыне няма адпаведных умоваў, а голад слова Божага там моцна адчуваецца.

У Злучаных Штатах Амэрыкі, калі не памыляемся, дзесьці ў 1965 г., паўстаў камітэт, які назваў сябе: «Беларускі Біблійны Камітэт», які вызначыў сабе мэту перакласьці Біблію на беларускую мову, выдаць яе друкам і распаўсюдзіць, а таксама заахвоціць да яе чытаньня іншых. Без сумніву мэта высокая і шляхотная. Склад Камітэту быў наступны: дырэктар — пастар др. Г. Гітлін; сябры: Тарас Сайка, ініцыятар; др. Янка Станкевіч, перакладчык; пастар Г. Гітлін, эгзамінатар; спадарыня Рэбэка Пэх, сакратар і скарбнік.

Пры гэтым камітэце быў заснаваны таксама і выдаўнічы камітэт (Publishing Committee), у склад якога ўвайшлі ўсе тут успомненыя асобы апрача Сайкі: др. Гыман Аппэльман, Робэрт Бэрры, др. Я. Ф. Чейс, сп-ня Станкевіч, сп-ня М. Стюдэр; сьвятары: А. Гарбузюк, А. Каваль, Я. Рэпэцкі, Я. Сергей, Г. Смэльсэр, Ф. Влох і сп. Маеўскі.

Як бачым з беларусаў у камітэце былі толькі два: др. Я. Станкевіч і Т. Сайка. Іншыя прозьвішчы, за выняткам др. Гітліна, нікому невядомыя.

Хутка ў Камітэце пачаліся недаразуменьні і спрэчкі, перадусім дзеля мовы, якую ужываў др. Я. Станкевіч. Дайшло да таго, што Т. Сайка наважыўся нават падаць у суд Камітэт Перакладу Бібліі. Ёсьць немалога значэньня і тое, што не заапрабавала новага перакладу Амэрыканскае Біблійнае Таварыства Сь. Тройцы (Trinitarian Bible Society) і з засьцярогай аднеслося да яго Брытыйскае Біблійнае Таварыства, якое праз нейкі час мела ў сваіх руках пераклад «Біблі».

Нягледзячы аднак на цяжкасьці і перашкоды, калі з Камітэту Перакладу адыйшоў Т. Сайка, калі памёр др. Гітлін, а рукапіс аказаўся у др. Янкі Станкевіча, гэты выдаў «Біблю» (усе беларусы кажуць: Біблія, Біб-

ліі і г. д.), пакрываючыся навонкі Таварыствам Францішка Скарыны.

## 2.

«Біблія» выразна мае пратэстанцкі характар і гэта ня толькі з вонкавага выгляду, але і дзеля яе зьместу. Яна ня мае ніякіх паясьненьняў, а што саме важнае — у ей прапушчана восем кніг Св. Пісаньня: Табіі, Юдыты, Мудрасьць Салямона, Эклезіяст, Баруха, Ліст Ераміі і дзьве кнігі Маккавеяў. Кнігі гэтыя называюцца дэўтаракананічнымі.

Грэцкае слова «Канон» ў першую чаргу азначае лінейку, а ў далейшым значэньні правіла. На саборах было прынята падаваць у кароткіх сказах праўды веры або нормы хрысьціянскага жыцьця, ад якіх пад пагрозай кары ня можна адступаць.

Калі аднак ёсьць гутарка аб каноне біблійных кніг, то тады разумеецца спісак аўтэнтычных кніг Бібліі, аўтарам якіх ёсьць чалавек, які аднак напісаў іх пад уплывам Сь. Духа, а якія Царква ўнесла ў біблійны канон. Стуль іхні назоў — кананічныя. Кнігі аднак так Старога як і Новага Запавету пісаліся ў перарывах даўжэйшага часу, таму іхняя кананічнасьць не магла ўстанавіцца ў адну хвіліну. Кнігі, аб якіх не было ніякага сумніву, назвалі протокананічнымі (у грэкаў: омолёгумэна); а тыя, аб якіх сумніваліся праз нейкі час — дэўторакананічнымі (у грэкаў: антілегумэна).

Да прыходу Хрыста жыды мелі Біблію у дзьвёх мовах: ў арыгінальнай стара-гэбрайская і ў грэцкай. У гэтай апошняй былі напісаныя 2 кнігі Маккавеяў; а іншыя кнігі Бібліі былі перакладзеныя самымі жыдамі ў Егіпце ў Александрыі у гадох 250—130 да нараджэньня Хрыста. Дзеля таго, што быццам над грэцкім перекладам працавала 70 чалавек, грэцкая Біблія называецца Сэптуагінта.

Грэцкая Біблія мела тую самую павагу ў жыдоў (прынамсі праз доўгі час) і ў хрысьціян, як і гэбрайская. У канцы IV і на пачатку V сталецьця сь. Геранім з арыгінальнай гэбрайскай мовы пераклаў ледзь ня поўную Біблію на лацінскую. Хутка гэты пераклад распаўсюдзіўся, асабліва ў лацінскай Царкве. Таму й атрымала Біблія сь. Геранімa назоў «Вульгаты», што значыць Біблія народная, шырока ведамая.

Каб устанавіць лік аўтэнтычных, Богам натхнёных сьвятых кніг, ня раз гэтым займаліся мясцовыя так усходняй як і заходняй Цэркваў саборы. І так для ўсходняй Царквы да сяньня абавязавыючыя рашэньні зрабіў сабор у Трульлё (691), які падсумаваў і пацьвердзіў рашэньні папярэдніх сабораў. Для ўсходняй і заходняй Цэркваў спісак сьвятых кніг зрабіў экумэнічны сабор у Флёрэнцыі (1441), а пасьля канчаткова яго пацьвердзіў трыдэнцкі сабор у 1546 г.

Тут трэба зрабіць вельмі важны выснаў: грэцкая Сэптуагінта, канон сьвятых кнігаў трульлянскага сыноду, лацінская Вульгата — усе мелі той самы лік кананічных біблійных кнігаў. Таксама і наш Скарына, хаця і ня ўсе надрукаваў, але маем доказы, што ўсе прызнаваў.

Толькі ад часаў рэфармацыі, калі Лютар і ягоныя пасьлядоўнікі самахоць пачалі называць некаторыя кнігі Бібліі апокрыфамі, некаторыя прадстаўнікі праваслаўнай Царквы пад іхнім уплывам пачынаючы ад XVIII ст. пачалі разрозьніваць паміж кананічнымі і дэўтараканaнічнымі. Аднак Астрожская Біблія і старaславянская, выдаваная некалькі разоў расейскім сьвяцейшым сынодам, маюць усе без вынятку біблійныя кнігі і ня робяць розьніцы між імі.

Няхай тады будзе дазволеным запытаць перакладчыкаў «Біблі», чаму зь яе выкінулі аж восем кніг? Гэта зроблена супраць традыцыі каталіцкай і праваслаўнай. Выглядае, што «Біблія» прызначаецца для вузкага кружка беларускіх пратэстантаў; але і сярод іх ёсьць сяньня агульнае імкненьне, каб мець супольную Біблію для ўсіх хрысьціян.

## 3.

Прыходзім да найбольш далікатнага пункту — да ацэны новавыданай кнігі.

Вонкавы яе выгляд (друк, папера) трэба вітаць. Друкарскія памылкі ёсьць, але як на так абшырную кнігу, іх вельмі мала. Перакладчык Старога Закону без сумніву знаў добра стара-гэбрайскую мову і карыстаўся г. н. тэкстам масорэтаў. Ці перакладчык у такой самай меры знаў грэцкую мову як і гэбрайскую — сумніваемся. Магчыма таму Стары Закон больш зразумелы за Новы.

Трэба таксама ацаніць вялізарны ўклад працы і вялікую суму затрачаных матэрыяльных сьродкаў, якія трэба было знайсьці, каб выдаць гэткую кнігу.

На жаль усё добрае нікне, калі мусіш сустрэцца на кожнай старонцы, а нават блізу ў кожным сказе з ад'емнымі якасьцямі «Біблі». Да гэтакіх мы залічаем: некамплетнасьць Сьвятых Кніг, нікім ніколі неўжываны назоў «Бібля» замест Біблія, штучнасьць і незразумеласьць мовы. Каб разумець «Біблю», трэба мець нейкі адумысловы слоўнік. Таксама ніхто ня чуў пра «вялікалітоўскую» мову, хаця існавала дзяржава пад назовам Вялікага Княства Літоўскага.

Няведама такжа чаму ў «Біблі» слова «спадар» заўсёды друкуецца вялікімі літарамі, а

ў слове Бог толькі пачаткавае вялікае Б? Тут можна было-б запытаць, чаму і гэбрайскае Егова і грэцкае Кіріос заўсёды перакладаецца словам Спадар? У некаторых навачасных перакладах (ерузалімская Біблія і інш.) пакідаецца Егова, а Кіріос у залежнасьці ад мовы перакладаецца словам Госпад.

«Бібля» замест пабуджаць да глыбейшых рэлігійных думак, да малітвы даводзіць сваімі дзівосамі да непаразуменьня і абурэньня. Хто-ж з беларусаў чуў слоўцы, прыкладам, дзявушчая дзеўка, сядні, сьця, кукобіць, зыр, атуга, Абрагам аправіўся, закон радзі людзіну, замужка, шкелі і г. д.

Калі я дакрануў тут мову, дык раблю гэта як сьвятар і вернік, які мае права выказацца аб той ці іншай кніжцы. Няхай філялёгі са свайго боку скажуць аб мове «Біблі». Магчыма знойдзецца ў ёй і зерне сапраўды вартаснае для навукі.

4.

Беларусам сяньня патрэба імкнуцца да таго, каб мець супольную Біблію, для ўсіх веравызнаньняў.

Каталіцкая Царква высказалася аб гэтым найбольш аўторытэтна на II-ім Ватыканскім Саборы.

«Ёсьць канечным, каб вернікі мелі шырокі доступ да Сьвятога Пісаньня, каб яго пераклады згодна з патрэбай і за дазволам царкоўнай улады, прыгатаўляліся супольна з братамі іншых рэлігіяў і каб маглі быць ужыванымі ўсімі хрысьціянамі». (Канстытуцыя аб Божым аб'яўленьні, нр. 22). Гэтыя словы трэба лічыць фундамантам для супольнай Біблії з боку Каталіцкай Царквы. Не прайшло шмат часу ад Ватыканскага Сабору і распачаліся міжнародныя зьезды, гутаркі і дыскусіі, каб прыгатаваць і выдаць супольную Біблію. Дзякаваць Богу ня скончылася толькі на гутарках. У гэтым 1973 г. выйшла з друку Біблія, у прыгатаваньні якой прымалі удзел каталікі і англікане; а праваслаўныя грэцкія герархі не шкадавалі для яе пахвалаў. Падобныя супольныя выданьні ўжо маюцца ў Францыі і Нямеччыне.

Успомню, што калі жыў Уладыка Васіль Тамашчык, я меў зь ім перапіску у справе супольнага перакладу Біблії. Ён ня толькі поўнасьцю пагаджаўся з самой ідэяй, але сам рабіў пераклады некаторых кніг з гэбрайскай мовы. Таксама пастар Пятроўскі, ведамы перакладчык на беларускую мову твораў Плятона, ёсьць прыхільнік супольнай Біблії.

Лёнданскі цэнтр, хаця й нагружаны ўсялякімі працамі, рыхтуецца вельмі паважна да гэтай адказной працы. Дагэтуль сабраны ў беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны важнейшыя даўнія пераклады Біблії на беларускую мову, а таксама найлепшыя выданьні ў гэбрайскай, грэцкай, лацінскай, стараславянскай і іншых мовах. Дай Божа толькі часу і сілаў!

*Ч. Сіповіч, Біскуп*

# Ліст з Паўдз. Вьетнаму — Контум

September, 1973.

Dear Father Hermanovich,

Since the cease-fire agreement was signed in Paris on January 28th there have been two phases in my Diocese of Kontum, South Vietnam.

Firstly, for six weeks or so, the struggle went on without diminishing. Many villages were attacked and burned — the people fleeing to safety — the hospitals overflowing with wounded and many dead everywhere.

Secondly, as I write, an uneasy calm has settled on this area. Our people are now planting rice and rebuilding their homes. Some have returned to their villages — those who live near Kontum. Those who live further away do not yet dare to return because there is still danger in the country districts.

Everyone is aware that this is a respite only and no-one can guarantee that the Peace we hope and pray for has really come to stay. Day by day we give assistance where we can, to the homeless, the hungry and the sick and injured. Until November there will be no crops of rice to harvest. We buy it where we can, and it is always very dear.

It is essential to provide schooling for the children. We are rebuilding damaged premises and have thousands of children now back in school. This is due in most part to the courage and devotion of my teachers, both lay and religious. They continue their work without fear for their personal safety.

To live in peace is the only wish of my people. Years of insecurity, the loss of loved ones and homes destroyed have taken a terrible toll in the lives of the Montagnard people. Please help us now to bring a happier message of love and encouragement to them. Your gift will carry that message, Father Hermanovich.

Pray for us please...

Sincerely in Christ,
✠ Paul L. Seitz
Bishop of Kontum




*Ікона Съв. Эўфрас. Полацкае. праца на срэбры мастака Пола Вінцы,*
*уручаная* ЯГО ВЫСОКАСЬЦІ КАРДЫНАЛУ МІНЦЭНТЫ
*В. КІПЕЛЕМ 30 верасьня 1873 году у гор. Нью Брансвіку, ЗША*

## ДЗЕНЬ СУПАКОЮ

Ужо некалька гадоў у дзень 1-га студня сьвяткуецца Дзень Сусьветнага Супакою. У 1974 г. гэты Дзень адзначаецца заклікам: «Супакой на сьвеце залежыць ад ц я б е»! Гэта — сусьветная справа ўсіх людзей. Кожны чалавек павінен у меру сваіх магчымасьцяў да яго прычыніцца Пра супакой усяго сьвету будзе разважаньне і накіраваныя малітвы у дзень 1-га студня.

## ГОД ЗАСЯЛЕНЬНЯ ЗЯМЛІ

Праблема насяленьня нашае плянэты — квэстыя вельмі важная. Зямля і ейныя багацьці з Божае волі ёсьць уласнасьцяй усяго чалавецтва, — дык паўстае пытаньне, колькі людзей можа зьмясьціць і пракарміць нашая зямля? Год 1974 назначаецца для спэцыяльнае развагі, як і колькі народу і дзе яго разьмясьціць на нашым сьвеце? Бо дасюль усё ішло безаглядна на прышласьць; а тымчасам лік людзтва павялічываецца шпарчэй, чым сродкі утрыманьня на плянэце. Трэба сьцісла даваць падлік народу і сродкаў, дый патрэбна разумнае нармаваньне колькасьці людзей і ўтрыманьня іх.

Трэба выпрацаваць супрацу ўсяго чалавецтва і помачы бедным краінам, каб кожны край сам здабываў належныя сродкі і нармаваў прыбытак насельніцтва.

Арганізацыя Аб'еднаных Нацыяў, пры супрацоўніцтве Апостальскага Пасаду, выпрацоўвае дасьледваньне паказаных квэстыяў. Аднак Царква ня можа згадзіцца на тое, каб праводзіць стасаваньне аборту ці наагул забойства ненароджаных дзяцей, што супраціўляецца Божаму загаду: «Не забівай!». Царква асуджае рэгуляцыю насельніцтва сродкамі нялюдзкімі, як кастрацыя, аборты і іншыя падобныя.

*

У кастрычніку т. г. адбыўся у Рыме *Зьезд прадстаўнікоў Сусьветнай Авіяцыі.* Разважалі справу захопу самалётаў бандытамі. Учасьнікі Зьезду былі на аўдыенцыі ў Папы Паўла VI. Папа ў прамове закрануў гэтую справу ў зьвязку з прыгнётам меншых народаў большымі. Слабейшым нацыям творыцца ў многіх краях несправедлівасьць і ніхто за іх не заступаецца. Дык гэта нярэдка прыводзіць слабейшых да роспачы — ажно хапаюцца сродкаў у сваей абароне нялюдзкіх! Даходзіць да жорсткага тэрроpy...

Паправа такіх нялюдзкіх адносінаў у грамадзтве — гэта пільная неабходнасьць, і апека Аб'еднаных Народаў павінна расьцягнуцца наагул да ўсіх пакрыўджаных на сьвеце. Такім спосабам піратства бандытаў будзе памяншацца.

## ДАЛЯЙ ЛЯМА Ў ПАПЫ

30-га верасьня наведаў Папу Даляй Ляма, духоўная і сьвецкая галава Тыбэту. Пасьля захопу Тыбэту Кітаям Даляй Ляма знайшоўся на выгнаньні. Аб сваей візыце ён казаў, што яна мела характар чыста рэлігійны і культурны, а для Папы добрая нагода была для ўзаемнага пазнаньня і дыялёгу між каталікамі і буддыстамі.

## СПРАВА ЦАРКОЎНАЕ МУЗЫКІ

У т. Ґенуа ў Італіі летам г. г. адбыўся Народны Кангрэс прысьвячаны царкоўнай музыцы. Акрамя самых выдатных мастакоў і прапагатараў царкоўнай музыкі ў Італіі, былі дэлегаты і з іншых краёў. З гэтае нагоды Папа падаў свае заўвагі адносна царкоўнай музыкі. Павал VI сьцьвердзіў, што Царква заўсёды пра музыку рупілася, як пра неабходную і неадлучную частку рэлігійнага жыцьця. Музыка памагае чалавеку маліцца. Пры помачы тонаў музыкі і песьняў чалавечая душа быццам на крыльлях узносіцца да Бога. Аднак, як кожная людзкая дзейнасьць, так і музыка патрабуе ўсьцяж дасканаліцца тасоўна да культурных патрэбаў чалавека.

Павал VI перасьцярог Зьезд перад падвойнай памылкай у рэформе музыкі: 1) Царкоўная музыка мусіць мець рэлігійны характар і ня можа быць заменена сьвецкай музыкай, да чаго цяпер назіраецца тэндэнцыя, бо сьвецкая сваей асаблівасьцяй прычыняе расцярупанасьць і больш прыгнякае, чым узносіць душу да Бога. 2) Царкоўная музыка павінна быць у цеснай сувязі з традыцыяй старой царкоўнай музыкі і з ейнага характару браць натхненьне і зьмест. Царкоўная музыка мае служыць сьв. Літургіі, гарманізавацца з ею і з Сьв. Пісаньнем.

Таксама Папа выявіў жаданьне, каб грэгорыянскі сьпеў на лацінскай мове быў і далей падтрымліваны ў царкоўных установах, як манастыры і дух. сэмінарыі. Дый трэба вучыць народ сьпяваць некаторыя важнейшыя часткі сьв. Літургіі. Гэта памагала б вернікам розных нацыяў учасьнічаць у ёй і было б знакам супольнасьці веры і унівэрсальнасьці сьв. Царквы.

## СУПОЛЬНЫ ПЕРАКЛАД СЬВ. ПІСЬМА

Швэдскі ўрад паклікаў камісію з 14 багасловаў для дакананьня перакладу сьв. Бібліі са старой

на сучасную швэдзкую мову. Да камісіі ўвайшлі і два каталіцкія багасловы, хоць каталікоў у Швэцыі вельмі мала.

## СУПРАЦА МІЖ КАТАЛІКАМІ І ЛЮТЭРАНАМІ

Летам г. г. у Айзэнах, ува Ўсходняй Нямеччыне адбыўся Зьезд Сусьветнага Згуртаваньня Лютэранаў. Быў Зьезд пасьвячаны супрацы з каталікамі ў галіне сродкаў масавага переказу, як радыё, телевізія, прэса і інш. Мэта: паглыбіць рэлігійную сьведамасьць хрысьціян для эвангелізацыі сьвету. Рашылі паручыць пастановы Зьезду адпаведнай Камісіі пры Сакратарыяце да Спраў Адзінства Хрысьціян у Рыме.

## НЕПАЖАДАНЫ РАЗНАБОЙ

У Японіі быў выданы «Дырэкторыум», у якім паказана, што на 100 мільёнаў насельніцтва выпадае 1 мільён 100 тысяч хрысьціян; а з іх 345 тысяч каталікоў і рэшта належыць да 100 розных пратэстанскіх цэркваў.. Значыць, вельмі цяжка японцу разабрацца, якая вера праўдзівая? Дый вельмі сорамна самым хрысьціянам бачыць такі дзіўны разнабой. Цяпер хрысьціяне стараюцца пад уплывам экумэнізму лучыцца між сабою ў місыйнай працы і ў малітвах, каб гэтым вярнуцца да адзінства веры і не даваць паганам згаршэньня падзелам.

## ПРЫВІТАЛЬНАЯ ТЭЛЭГРАМА

З нагоды 10-х угодкаў Папы Паўла VI канстантынопальскі Патрыярх Дэмэтрыёс прыслаў тэлэграму з прывітаньнем і пажаданьнямі. Адначасна адзначыў, што стараецца, як можа, мацаваць у сябе адзінства Царквы, а таксама і лучнасьць між каталікамі і праваслаўнымі. Папа ў адказ на прывітаньні выявіў сваё гарачае жаданьне, кажучы: «Каб Бог абдарыў нашыя сястрыныя Цэрквы сваей ласкай і каб пачатая справа поўнага адзінства між намі стала памысна закончанай!».

## ДЗЕЙНАСЬЦЬ ПАПЫ Ў СТАТЫСТЫЦЫ

Ватыканская газэта «Оссэрваторэ Домініка» падсумавала важнейшыя заняткі Папы ў працягу 10-ці гадоў: у гэтым часе сказаў у Ватыкане 1090 прамоваў і 120 ў падарожжы. У дарозе праляцеў 135 тысяч кілямэтраў. Назначыў 103 кардыналаў і звыш 1000 арцыбіскупаў і біскупаў. Выдаў 7 энцыклікаў, 27 Апостальскіх пасланьняў, 102 іншых зваротаў і 57 дэкрэтаў «Мото пропрыё» На аўдыенцыях прыняў 52 Галоваў розных дзяржаваў. Кананізаваў 70 сьвятых, а 38 бэатыфікаваў. Сам асабіста або праз сваіх прадстаўнікоў падпісаў 22 міжнародныя дагаворы і наладзіў з 24-ма дзяржавамі дыпляматычныя адносіны (у гэтым ліку з 12 афрыканскімі).

## ПАЎДЗЁННАЯ АМЭРЫКА — ЧЫЛІ

Усувязі з упадкам ураду і сьмерці-самагубства прэзыдэнта Алендэ — арцыбіскуп гор. Сант-Яго ад імя ўсіх біскупаў выдаў дэкларацыю. Біскупы выражаюць глыбокі жаль, што ў пераваропе праліліся нямала крыві і зьвертаюцца да новага ўраду, каб ушанаваў эканамічныя здабычы народу — работнікаў і сялян, што былі асягнутыя пры папярэднім урадзе. Біскупы прызнаюць удзячную памяць нябожчыку Алендэ і ягоным памацнікам, якія шчыра хацелі паправіць долю рабочых масаў і за гэта палажылі свае жыцьцё. І сапраўды спачатку духавенства дало падтрымку самому Алендэ. Толькі пасьля, калі ўрад Алендэ пачаў агранічваць каталіцкія школы і кіраваць народ у бок атэізму, Касьцёл адмовіўся ад тае падтрымкі. Таксама ў Мэксыцы сьмерць Аленде выклікала ў духавенстве вялікі жаль. А Біскуп г. Мэксыка сказаў: «Чылі пад Алендэ няслo Лацінскай Амэрыцы надзею на свабоду і на сапраўдную дэмакрацыю».

## АФРЫКА — ЗАІРЭ: СЬВЕЦКІЯ ПРАЦУЮЦЬ ДЛЯ ЦАРКВЫ

Кардынал Язэп Малюля заклікае Біскупаў назначаць сьвецкіх людзей да некаторых духоўных абавязкаў, як навучаньне рэлігіі, праводзіць некаторыя набажэнствы у няпрысутнасьці сьвятароў, адміністраваць царкоўную маемасьць і інш. Мэта гэтага парадку: даць сьвятаром больш вольнага часу да выкананьня духоўных абавязкаў, а гэтак паглыбіць рэлігійную сьведамасьць народу. Гэта ўсё дзеіцца ў духу II-га Ватыканскага Сабору, каб больш зьвязываць сьвецкіх з жыцьцём Царквы і каб пачуваліся да адказнасьці за яе. Бо і так заклікае сьв. Пісьмо, што ўсе вернікі ёсьць «жывымі каменьнямі» Царквы і павінны прычынящца да яе ўзросту.

## ТРЭБА ВЕРЫЦЬ І Ў ХРЫСТОВУЮ ЦАРКВУ

Нядаўна на адной агульнай аўдыенцыі Павал VI закрануў адносіны да Хрыстовае Царквы. Папа сказаў, што цяпер Царква ёсьць прадметам агульнага заінтарасаваньня і багаслоўскіх досьледаў. Аднак чалавечы розум ня можа дастаткова расшыфраваць тямніцы Царквы. Сам Хрыстос сказаў: «Я засную Царкву маю і пякельныя брамы ня перамагуць яе!». Дык Папа гаварыў: «Царква ня толькі навучае веры, але і яна сама ёсьць прадметам веры». Апошні Сабор паясьняў навуку аб Царкве ў спэцыяльнай сваей Канстытуцыі.

Аднак цяпер уваходзіць у моду, хто хоча здабыць папулярнасьць, той бяз ніякае пашчады крытыкуе Царкву, не разьбіраючы, што ў ёй ёсьць Божае, а што людзкое? Усяму лёгкадумы

супрацiўляюцца i ўсё асуджаюць. Папа перасьцярагае перад тварэньнем новае царквы паводля думкi i вымогаў сучаснае культуры. Бо толькi Хрыстовая Царква збаўляе чалавека i яна iснуе па ўсе вякi i звыш чалавечых думак i iхняе культуры. Дык толькi тое, што ў Царкве людзкое, вымагае ўсьцяж рэформы i дасканаленьня. У гэтым нам памагае пазытыўная крытыка, якая з пашанай i любоўю да Царквы дасьледуе i выказвае спосабы, як паправiць недасканалае.

## ЮВIЛЕЙ СУСЬВЕТНАЕ РАДЫ ЦЭРКВАЎ

Сёлета выпадаюць 25-ыя ўгодкi Сусьветнае Рады Цэркваў, кяая рэзыдуе ў Гэнэве. Гэта ёсьць самае вялiкае згуртаваньне хрысьцiянскiх цэркваў i лучыць сваiм засягам шматлiкiя мiльёны хрысьцiян. Да Рады належаць у значным лiку i праваслаўныя цэрквы. Мэта Сусьветнай Рады: зблiжыць узаемна хрысьцiян i праводзiць стараньне, каб вярнуцца да адзiнства веры.

На апошняй сэсii Сусьветнай Рады была мова аб супрацы з папскiмi Камiсiямi для спраў Справядлiвасьцi i Супакою i для справаў Апасталяму Сьвецкiх людзей.

З нагоды 25-га юбiлею Рады Папа прыслаў сваё прывiтаньне, у якiм пiша: «Мы маем слушнае жаданьне прадаўжаць гэтую супрацу i разьвiваць яе, бо гэта ёсьць па думцы II-га Ватыканскага Сабору».

*

*Папраўка.* У папярэднiм нумары 3 (137) «Божым Шляхам» памылкова зьмешчана прозьвiшча а. Ф. Журнi, як аўтара пры кронiцы «З царкоўнага жыцьця» бачына 8, замест пры артыкуле «Павал VI — 10 гадоў». (Рэд.)

---

# *З беларускага жыцьця*

## ФАТIМА — ПАРТУГАЛIЯ

(Лiст да Рэдактара) 28. VIII. 1973.

«Я шчасьлiва прыляцеў. А тут шмат чыстага паветра для душы i цела. Учора я служыў Сьвятую Лiтургiю на месцы аб'яўленьня Божае Мацi — за Беларусь. Але казаньне гаварыў у розных мовах. Тут ёсьць i рэктар «Руссiкум» з Рыму i дырыгент хору айцец Пiхлер». Кардынал Оддi прысылае Вам найлепшыя пажаданьнi i багаславенства. Аўгурi: Сiльвiан Кард. Оддi.

Урачыстую Лiтургiт за Беларусь служыў Бiскуп Ч. Сiповiч 27-га жнiўня г. г. Гэта быў памятны дзень з нагоды 10-цi годзьдзя Бiзантыйска-Славянскага Цэнтру, якога кiраўнiком ёсьць протоерэй I. Моватт.

*

27 верасьня г. г. у Мiннэапалiс у Злучаных Штатах Амэрыкi памёр ведамы беларус, пратэстанскi дзяяч, Тарас Сайка. Быў ён iнiцыятарам беларускае Бiблii.

*

24-га кастрычнiка пасьля доўгае i цяжкое хваробы памярла Сьв. Памяцi БАРБАРА, ўроджаная Сiляўка, па першым мужу Марцiнкевiч, па другiм Мiдэйло. Месца яе нараджэньня в. Буйкi, Шаркаўскай гмiны. Пахавана на магiльнiку Сан Панкрас у Лёндане-Фiнчлi. Набажэнства у царкве на магiльнiку i



пры магiле адправiў правасл. сьвятар Янка Пекарскi. Прысутнiчалi i малiлiся прыяцелi Сьв. Пам. Барбары i сям'i Мiхалюкоў, дзе прабывала у сваiх родных, будучы здаровай i у доўгай хваробе. Некалька разоў забiралi яе ў шпiталь у Барнэт-Фiнчлi, дзе нарэшце i памярла падчас апэрацыi.

Адзначалася Сьв. Пам. Барбара выдатнай працавiтасьцяй i пакорай, i глыбокай пабожнасьцяй, асаблiва падчас доўгае хваробы, цярплiва згаджаючыся з Божаю воляй i просячы у Бога сьмерцi. Асталiся: сын Васiль Марцiнкевiч з сям'ёй i дачка Лёля Мiхалюк з сям'ёй.

# Малітва

Нашыя ўчынкі нічога не варты без малітвы. Малітва набірае большай вартасьці, калі лучацца з ахвярай.

Найперш малітва, пасьля — пакута, а толькі на трэцім месцы — дзеяньне.

Малітва — гэта падстава духовага будаваньня. Малітва ёсьць усёмагутная.

«Госпадзі, навучы нас маліцца!» — (апосталы) — Господзь адказаў: — Гаварыце: «Ойча наш ў небе . . .

Маліся паволі. Уважай на тое, што гаворыш! Хто і да Каго гаворыць? Хуткае ляпатаньне, ня могучы разважыць — гэта усёроўна, што плясканьне ў бляху. Сьвятая Тарэса казала: «Я не ўважаю такой малітвы, хоць бы хто і доўга малоў вуснамі . . .»

Чаму не пашукаеш у кожнай патрэбе размовы з Вялікім Прыяцелям (Богам), які ніколі не здрадзіць?

«Марыя выбрала найлепшую частку», чытаем ў Евангельлі. Гэта Яна хавала словы Настаўніка (Хрыста). Здаецца, нічога больш ня робіць, як толькі моліцца. А пасьля ідзе за Хрыстом, калі Той прамаўляе ў навуках па мястэчках і вёсках. — О, як нам трудна ісьці за Хрыстом без малітвы!

Кажаш: «Я ня ўмею маліцца!». Тады стань перад Богам у душы і скажы Богу: «Я ня ўмею маліцца, Госпадзі!». — Ты будзь пэўны, што ўжо пачаў маліцца . . .

*

А ты мне скажаш: «Маліцца, значыць, гаварыць з Богам. Але аб чым?».

О, аб чым? Гавары аб Ім і аб сабе! Аб тваей радасьці і аб смутку, аб посьпеху і непаводзінах. Аб слабасьці і просьбах, аб ласку. Адным словам, пазнаеш сябе і пазнаеш Бога, а з Богам увойдзеш у дружбу.

Ты ўважаеш сябе за марнага і нягоднага, каб Бог цябе паслухаў . . . — Але ж ёсьць заслугі Божае Маці. Ёсьць Хрыстовыя раны. Ці ж ты ня будзеш сынам Божым? — А зрэшты Бог цябе слухае, бо «Ён — добры . . . бо на векі міласэрдзе Ягонае» — міласэрны вечна.

Хрыстос — маленькі — стаўся Дзіцяткам! — каб ты даверліва мог да Яго прыбліжыцца.

«Госпадзі, у Табе маю надзею».

Гаворыць Ісус: «Я табе кажу: «Прасіце, а будзе вам дадзена; шукайце, а знайдзеце; стукайце, а вам адчыніцца». — Маліцеся . . . атрымаеце большую пэўнасьць паводзінаў.

Будзь вытрывалы ў малітве, хоць і здаецца табе, што дарэмна стараўся, бо малітва заўсёды карысная.

*

Розум твой нейкі атупелы, непаваротлівы: перад Богам траціш думку. Але ж гэта — нічога! Ня турбуйся. Зразумей, што гэта ёсьць хвіліна, якая належыць да цябе.

Слова, якое парушыла цябе на малітве, запамятай сабе і паўтарай яго шмат разоў удзень.

Хрыстос «начаваў на малітве да Бога», так піша Евангелле. А ці ты здабываўся на вытрываласьць?

Ці можа быць хто сьвятым без малітвы? — Я ня веру ў такую сьвятасьць.

Калі ты не дбаеш пра малітву, дык я ня веру, што ты чесны чалавек, калі гаворыш, што жывеш па Божаму.

Мне смешна, што ты кажаш: «Я не хачу Богу лезьці ў вочы! Як пастарэю, дык можа . . .»

Ты ўжо гаварыў Богу: «Не спадзявайся на мяне, Божа! Я ня варты. Але я маю надзею на Цябе, Хрысьце Божа. Аддаюся Табе ў рукі, каб Ты абняў мяне . . .»

А я думаю, што такая твая малітва — добрая!

На малітве ты не гаворыш сам з сабой. Мы — хрысьціяне — мы маем Айца ў небе і гаворым у малітве з гэтым Айцом.

---

*Язэп Гэрмановіч*

# І. Учора—сягодня—заўтра

(Успаміны)

(Працяг)

### III. ПАБЯГУН.

Трэба вялікай адвагі, каб пісаць успаміны, пачынаючы ад малых гадоў і працягваючы аж да . . . хто яго згадае, да якога часу? Значыць, гэта ўжо разрахунак з жыцьцём і справаздача чытачом, можна сказаць, споведзь перад грамадзтвам. Дык прызнавацца ня вельмі прыемна да сваіх пахібаў, непаводзінаў, няўдачаў і няўмеласьці; а хваліцца — нязручна дый няма чым . . .

Ня дзіва, што людзі ня вельмі любяць спавядацца, хоць чуюць патрэбу гэтага, так што і самыя сьмелыя адкладаюць, або й адмаўляюцца. — Падобна й я адцягваў успаміны аж да гэтых 83-х гадкоў. А якраз я упёрся ў здарэньне труднае і балючае: Ішоў мне мусіць пяты год і я нечым моцна правініўся (не магу прыпомніць, што быто такое?), аж мама закіпела на мяне, але я — драла! . . . Каб я жыў, ніколі датуль ад маткі ня ўцякаў, а тут выскачыў на Барунскую нашую вуліцу, а матка давай гнацца й лёгка дагнала: схапіла за руку і . . . нічога! Прывяла дамоў, гаманіла спакойна — ажно я думаў, што на тым і скончыцца. Але яна стала нібыта мяне аглядаць, і лагодна прыхіліла, дый як рэзнула па голым — аж мне заняло дух! Кажуць, што гэта называецца «бярозавая каша» і што бывае вельмі «смачная» дый «гарачая». Дык я праканаўся, што людзі кажуць праўду — аж папамятаў на ўсё жыцьцё! На шчасьце, гэта быў першы і апошні раз. Каб бацька жыў, дык пэўна лаўтараў-бы такую порцыю; але матка мне больш не давала; аднак дзякую ёй і за тое, бо навука «ў лес не пашла» . . .

Ня ведаю, як гэта растлумачыць, але хлопцы мяне ня білі, хоць я быў добры задзірака. Калі ж што там і задаралася, дык я ніколі матцы не жаліўся. Наагул нашыя вясёлыя гулі і перагонкі ня бывалі ані крывавыя, ані нават злосныя. Аднойчы, помню, як мы гулялі на вуліцы ў кацёлку, а я даваў адбой праціўнай партыі, дык так нязручна стукнуў, што кацёлка скочыла ў бок і трахнула ў чужую шыбу! Ну, праціўнікі мяне злавілі і даказалі пашкоджанаму гаспадару: «Гэта — Гарманіхі сын!» хоць я й ня ўцякаў. Што ж? Гаспадар глянуў на мяне скоса й больш нічога. Маткі ня было дома й я вельмі баяўся — не таго, што будзе са мной парахунак, бо матка не карала за памылку, але было стыдна і шкода, што бедная матка будзе плаціць за шыбу . . . Аднак скончылася нічым: Той гаспадар не зьвярнуўся да маткі і не спаганяў сваей крыўды і я астаўся вінаватым аж дасюль!

На Барунскай вуліцы мы жылі ў Аляксандра Ганусэвіча, які быў шаўцом і заўсёды длубаўся з ботамі, чаравікамі: я любіў глядзець на ягоную работу і аж часамі стараўся памагчы — нешта падаць, патрымаць, прынесьці. Ганусэвіч любіў мяне: забаўляў размовай і мусіць прывучыў-бы мяне да сваей работы? Добра, што хоць за жаўнерамі мы цягаліся, наглядалі іхныя муштры й сядзелі пры барабаншчыках. Сам адзін я па вуліцы не брадзіў, асабліва вечарам, як гналі з поля быдла, бо я вельмі баяўся зьлыдню-казла, якога баялася ўсё мястэчка, а нават хатнія заганялі яго качаргой! і я лічыў, што казёл горшы ад самога чорта . . .
Дый не магу пахваліцца сваей адвагай, бо мы з Людвіняй доўга баяліся барадатых жыдоў. Досыць было крыкнуць: «Юдка ідзе!» як мы хуценька хаваліся ў хату, бо Юдка аднойчы шчапіў нам воспу; а хадзіў, як фэльчар, з вялікай сумкай і з барадой.

У гэтым часе матка брала й мяне на сваю работу. Ейныя таварышкі любілі мяне ў сваей кампаніі: сьпявалі, сьмяяліся, жартавалі, а нярэдка і пазводзілі. Аднойчы зручная жнейка так умела мяне ўцягнуць у інтрыгу, што нібыта мы будзем з ёй жаніцца, — аж я ня ведаў, як адгрызыціся! Да таго давяла, што ўканцы я здаўся на ейныя пляны — «будзем жаніцца!» Але ёй толькі таго й трэба было: як я згадзіўся, дык яна й адстала дый забылася пра мяне; а нават, адходзячы дамоў, не разьвіталася са мной . . . Тады я й праканаўся, што жанчынам верыць нельга: дастаў навучку на ўсё жыцьцё. Прытым мне было страшэнна стыдна перад маткай, што я яе здрадзіў — родную матку дзеля той свавольніцы!

Ня ведаю, якая была прычына, што матка перанесла нашую кватэру з Барунскай на Ашмянскую вуліцу? Але тут з маткай і з Людвіняй мы мелі лепшую кватэру: большую і сьветлейшую, бо вокны выходзілі на вуліцу дый тут жа праплываў ручэй, у якім можна было мыць ногі і плюскацца. Матцы была выгода, што мела зусім блізка да касьцёла. Адну мы мелі нявыгоду, што наўкола былі самыя жыды: хоць яны ў суседзтве ня былі прыкрыя, але ўсё ж — гэта людзі для нас чужыя.

Адносна касьцёла мама ўмела захаваць меру пабожнасьці і абавязкаў: ніколі дзеля набажэнства не апускала службы для дому і апекі для нас, дзяцей. Дый нас не націскала да набажэнства, а пацеры нам зусім не цяжылі і мы іх ахвонта адмаўлялі. Матка мяне брала з сабой да касьцёла, а ў набажэнстве я меў свае духоўныя рэкраацыі: ня мог наглядзецца на высокую гладкую сьцяну за аўтаром. Там былі вельмі цікавыя малюнкі — камбінацыі абразоў неба і прыроды, нябесныя сходы і пераходы, са ступенькамі і рознымі аздобамі. Мае вочы ўзносіліся вышэй — аж да самага эмпірычнага неба! Анёлы буялі па тых аркадах надта сьмела, бо мелі вялізныя крыльлі і не баяліся, каб не зваліцца, бо самі былі лёгкія, як Божыя духі! А ў цэнтры на доле як Хрысьціцель стаяў на берагу ракі і хрысьціў Госпада Ісуса Хрыста; ягоны плашч трымалі тры анёлы.

*

Мама мяне пакідала ізноў у Савіцкіх, але ўжо не адрывалася ад нас. Ну, мне цяпер паводзілася добра, бо дзядзькі-цёткі ўсё хадзілі на поле дый мяне бралі з сабой. Я ж ужо, як падростак, даставаў малую работу — нешта паднесьці, або

памагаць, як вяжуць снапы: падаваў салому ці трымаў пярэвясла. Аднойчы мне далі паднесьці збанок з халаднікам, бо другія несьці жанцом важнейшую яду. Мне казалі: «Асьцярожна нясі — не сьпяшайся!» Праўда, пакуль ішлі дарогай, я ішоў акуратна і думаў, што і я памагаю, бо я ўжо не такі малы... Але пасьля трэба было кусок ісьці мяжой, а мяжа — вузенькая, дык дзядзька Міхал прыпамінае: «Асьцярожна!» Дый я сам ведаю, як трэба, бо я ж — не малы! А перада мной бяжыць сабака: ён на мяне аглядаецца дый круціць хвастом і скача шыбка — аж я не магу за ім пасыпець. Аж мая нага раптам зьехала з мяжы —баяўся, каб не паваліцца і даганяў сабаку дый — трах-бах! і паваліўся... Збанок — ліха яго ведае! — ўзяў дый разьвязаўся, а халаднік разьліўся! Ах, уся бяда на мяне, бо жнеі найбольш чакалі халадніку... «Нашто давалі малому несьці?» — Усе крыўдуюць, а я горка плачу!..

Кажуць: «Ты яшчэ замалы: пачакай — падрасьцеж!» А ці ж я вінаваты, што сьцежка была кульгавая? і сабака круціўся пад нагамі... Але дзядзька Міхал казаў: «У сабакі — чатыры нагі, дык ён шыбка бяжыць, а ў цябе — дзьве». Я ж паглядзеў на Лыску дый палічыў, — праўда, што чатыры; а паглядзеў на свае, ну, — толькі дзьве і кароценькія!

Цікава, што са мной здаралася ўва ўсім жыцьці? — або памылка, або правал! А прычына — ўсё тая самая, што я — сірата, дык ніхто мяне ні ў чым не павучыў, але сьмяяліся, ці сварыліся, —што нездатны до нічога. Проста, я ж быў — недавучка — аж стыдаўся, што ня ўмею плаваць, хоць надта хацелася і толькі, дарастаючы, навучыўся сам сабой. Дый пасьля ў школах, калі я чаго не разумеў, дык так яно і трывала: ня ўмеў нікога турбаваць, каб памог мне. Так і нават пісьменнікам дый паэтам я стаў вельмі позна — ня сьмеў за тое ўсё брацца! Іскра ў душы гарэла і тлела бяз полымя...

Малым я вельмі хацеў езьдзіць конна — аж аднаго разу пасадзіў мяне нехта: быў я рады і шчасьлівы; як жа той дабрадзей адняў руку ад мяне, у мяне закруцілася галава і я бразнуў аб зямлю! Значыць, была гэта першая і апошняя навука — аж прайшоў добры час, калі я сам праз сябе адважыўся і перастаў жыць няўмекам.

✳

Казаў я, што мы з мамай і з Людвіняй перайшлі на Ашмянскую вуліцу да высокага і паважнага гаспадара, вельмі энэргічнага, але няўдачлівага з жонкай і з сям'ёй. У іх былі два сынкі: старшы быў кволы, не здатны, а прытым зусім дурны, але ня шкодны. А малодшы — сымпатычны і вельмі прыгожы. Сам гаспадар быў нам мала прыступны, але жонка — спакойная і маўклівая і ёй якбы нечага бракавала. Я гэтага не разумеў, аднак дзівіўся, што ў іх няма ладу. А сам гаспадар голасна наракаў, што ажаніўся нятрапна: трэба было ўзяць замуж старшую сястру з сям'і, а ён паквапіўся на малодшую, бо была прыгажэйшая. Значыць, ён ўляпаўся на ўсё жыцьцё... Няраз ён выражаў жаль перад нашай маткай, але ўжо я трапляў чуць і слухаць дый рабіць высновы, хоць гэта да мяне не датычыла. Я ж думаў: чаго ён чэпіцца да беднай жонкі? Яна працавітая, маўклівая, а ён балбатун. Цяпер жа я мяркую, што такі энэргічны чалавек мусіў і жонку мець паводле свайго генію: ён быў датуль і ў Амэрыцы дый зарабіў грошаў, паставіў добрую хату на два канцы, бо і сам быў сталяром... Дык тая старшая сястра якраз падыходзіла яму сваім характарам, аднак ён сам выбіраў з іх адну і... зусім нятрапна!

Хоць новая кватэра нам добра пасавала, аднак мы ў ёй доўга не пагасьцілі: думаю, што прычына была тая, што мы не змаглі аплачваць шыкарную для нас хату. Дык мы яшчэ раз асталіся бабылямі: матка хадзіла па заработках і брала з сабой Людвіню, а мяне закінула да Савіцкіх, праўда, на карацейшы тэрмін. У гэтым перапынку здарылася няшчасьце: матка цяжка захварэла на дэзынтэрыю! Толькі Бог сьцярог, што не памёрла, бо хвароба пагражала сьмерцяй.

У гэтую восень старшыя ад мяне дзядзькі яшчэ дакончвалі народную школку, аднак ішло ім няроўна: малодшы заўсёды прыходзіў на абед, а старшаму давалі «лусту» ў школу, бо ён аставаўся там без абеду. Помню, што паўтаралася такая гісторыя нярэдка. На мяне школка рабіла рашучае ўражаньне і я дамагаўся, каб і мяне паслалі туды, — аж ледзь мяне праканалі, што ў сярэдзіне году нельга пайсьці і ледзь мяне праканалі чакаць да восені!

Я ж быў у гэтым часе хлопцам вельмі вясёлым, скакуном, крыкуном — нястомным і неспакойным— усюды мяне было поўна! Аднойчы лютай зімой вечарам, калі пільна было нагрэць печ, а запасных дроў бракавала, дык у Савіцкіх унесьлі калоду ў хату: адны яе трымалі на зямлі, а другія пілавалі, а я ўсім мяшаў, круціўся каля рук — аж ня ўмелі мяне успакоіць, — нарэшце як бразнуў на зямлю сам, — й галавой аб нешта як стукнуў, дык засьвяцілі мне іскры ў вачах! Мяне падня́лі, нечым да шчакі прыкладалі, каб адцягнуць гарачку; а я так плакаў нястрымана, што й цяпер часамі хапаюся за тое месца ў галаве!..

Разам са школкай у мяне пачаўся новы этап жыцьця, а якраз з гэтым мы перайшлі на новую кватэру да цёткі Марылі Трацячыхі; а тут гаспадаром быў Антон Трацяк, муж Марылі. Іхны дом быў на тойсамай Ашмянскай вуліцы, толькі значна далей ад рынку і ад касьцёла, у другой палавіне вуліцы. У іх была маленькая дачушка,

вельмі прыгожая дзяўчынка, якая незадаўга пасьля памярла. Сам гаспадар Антон Трацяк быў чалавекам зусім адменнага складу і характару, чым той папярэдні гаспадар-сталяр.

У маім жыцьці наступіў новы пералом: я адразу дастаў два ганаровыя абав'язкі: зімой стаў вучням народнае школы, а летам стаў пастухом цётчынай каровы і цялушкі. Гэта трывала 4 гады, ад 1898 году да 1902 г. вясны. Пачуваўся я нязьмерна здаволены новым назначэньнем: пачуў у сабе вартасьць чалавека, з якім ужо лічыцца грамадзтва, як і матка сказала: «Ну, сынок, дарма хлеба есьці ня будзеш!» Людвіня — сястра таксама паглядала на мяне з большай увагай і адпаведна настроілася ў размове на больш паважны тон: ад гэтае пары мы ўжо менш сварыліся.

Аднак пра ўсё гэта скажацца ў наступным артыкуле.

## *Пішуць да нас*

Паважаны Рэдактар «Божым Шляхам»!

Ужо па сьмерці Дарагога Айца Міхала Урбановіча атрымалі мы «Божым Шляхам», у каторым ёсьць зьмест ліста Нябошчыка Урбановіча: «Дарагія Прыяцелі Лёнданскія Суродзічы . . .» (ліст) так цэнната сапраўды хрысьціяніна-Марыяніна іня толькі гэта, але ўсебакова нам незамянімага.

Як быў Айцец Міхал у Клярэндон Гілс, гэта недалёка ад нас на Вэстмонд, 421 Ліндэн Авэ, то кожны тыдзень бываў у нас. Прывозіў Яго а. Пётр, каторы добра а. Міхасём апекаваўся і заўсёды без ніякае адгаворкі прывозіў на Яго жаданьне, а то і да доктара Гайдзеля. Мала таго. Пётр дбаў ня толькі аб належным харчаваньні, але і аб чыстую бялізну, пасьцель і вопратку. Калі каторага тыдня чамусьці ня прыбываў да нас, дык тэлефанічна паведамляў.

Ад часу ліквідацыі дому Марыянаў у Клярэндон Гілс пасялілі а. Міхала ў Вілля Голы Фамілі, дык мы абое хацелі яго адведываць, але не змаглі дастаць аўта і толькі два разы гэта ўдалося. Апошні раз мяне і а. Чарняўскага вазіў Яцак Гайдзель. А так некалька разоў на тыдзень мы лістоўна зьвязываліся з ім.

Заўсёды марыў ён, жадаў і пацяшаўся, што будзе паміраць між сваімі ў Лёндане, пакуль не атрымаў адказ, што ў яго веку паміж вас няма месца . . .

Трэба зазначыць, што а. Міхась усе свае лісты пачынаў пісаць з Богам, ставячы крыжык, як было за часаў першых хрысьціянаў і практыкавалася ў нас на Бацькаўшчыне да апошняга даваеннага часу.

Мы ў Чыкаго ўсе а. Міхала паважалі і любілі: кожны год на яго імяніны зьяжджаліся масава туды, дзе ён прабываў і ладзілі імянінавы банкет. Апошнім часам у 1972 банкет быў найгучнейшым і Айцы Тарасэвічы адправілі там сьв. Літургію.

Пісаць аб а. Міхале ёсьць многа чаго, але на гэта трэба мець успакаеньне пасьля пражытае трагедыі і сабраць думкі.

Вечны Яму пакой!

27. VIII. 1973 *Я. Чарнэцкі*

*

КАНАДА, гор. ЛЁНДАН. 26. 9. 1973. — (Рэд.: Гэта невялікі горад у Канадзе, які запазычыў назву ў Англіі, ад сталіцы краю, Лёндану. Наагул у Паўночнай Амэрыцы любяць браць назвы гарадоў з Эўропы, ці з іншых кантынэнтаў, або з гісторыі. У Паўдзённай Амэрыцы нямала назваў узята з Сьвятой Бібліі, як Сант-Яго — значыць «Сьвяты Якуб», Ассумпціён — «Унебаўзяцьце» і інш.).

Сягодня — на дзень перад адлётам з Канады, пішу апошнія лісты з дарогі. Падарожжа трывае больш, чым тры месяцы: перасылаю найшчырэйшыя прывітаньні з маей вандроўкі. Пачуваюся добра. Думаю, што шчасьліва даеду да сваей Аўстраліі, па якой ужо моцна засумаваў; хоць усюды было мне добра, але найлепш у сваей хаце, хоць і ў далёкай Аўстраліі . . . Сьпяшаюся дамоў, каб трапіць на сьвята, дзень нараджэньня сына, хоць не паехаў ён са мной.

Учора. позна ноччу, вярнуўся я з Аттавы, сталіцы Канады. Здаволены, што хоць на адзін дзень паехаў туды, але пабачыў надта прыгожы горад і прыгожых людзей, старых знаёмых з прад 22 гадоў, Сурвіллаў з дачушкамі. Успаміналі мінуўшчыну маю і іхнюю. Патаварылі і пра справы нашыя беларускія, якія для нас заўсёды дарагія. Але ён адарваўся ад мяне і паехаў на работу; а я да Таронто бусам, дый цягнікам да брата, да Лёндану. У дарозе цягніком — больш 7-мі гадзін — аглядаў і дзівіўся з краявідаў у правінцыі Антарыё. Цяпер, восеньню, калі дрэвы прыхарашыліся багацьцём цёплых колераў, прырода выглядае цудоўна! Шкода, што я — не мастак і не паэт: не магу ўсяе красы перадаць

словамі ці затрымаць іх фарбамі на паперы ці на палатне, але адклікаюся да фантазіі Вінцука Адважнага і прашу «адмаляваць» гэтыя вобразы, якія ў вялікай меры прыпамінаюць і нашую восень на Беларусі.

Як разьвітаўся з Вамі ў Англіі, дык заляцеў у Нью Ёрк. У Амэрыцы затрымаўся даўжэй, каб быць на кангрэсе БАЗА, які адбыўся ў Нью-Брансвік 1-га і 2-га верасьня. І не шкадую, што затрымаўся, бо пазнаў шмат важнага і цікавага. Гэта мне дало больш сілы працаваць у Аўстраліі дый нямала чаго я павінен у сябе паправіць. Хачу пабачыцца з доктарам Рагуляй і заўтра маю апошні тут дзень. Шкада, што так хутка праляцеў час у падарожжы, як і ўсё ў нашым жыцьці. Пазаўтра ў Чыкага спаткаюся з знаёмымі і з сябрамі — так і скончыцца мая «эгзотыка». Пачнецца ізноў штодзённае жыцьцё.

Прывітаньне ўсім і найшчырэйшыя пажаданьні-памысьнасьці.

Шчыра адданы М. Н.

## ГОЛАС З ДРУГОГА БОКУ АКІЯНУ

Цяжка жыць сіратою без матчынага цяпла й без бацькавага узгадаваньня. У другой Сусьветнай вайне многа лілося крыві і сьлёзаў — так дзетак-сіротак, як і бацькоў, што аставаліся на старасьць без належнае апекі. А магілы тых, што пралівалі кроў за Бацькаўшчыну, рассыпаны па ўсім сьвеце. А былі яны то з простых сялян, то жаўнерамі, афіцэрамі, сьвятарамі — з усялякага роду і званьня...

Дый я сам, па страце здароўя, знаходжуся ў Нью Ёрку на доўгім паўвостраве, у клімаце нявыгадным, бо пануе тут сталая вільгаць і жыву ў так званым «Старэчым Доме», хаця я й не такі стары.

Было гэта 22-га красавіка 1972 г. ў пятніцу Вялікага тыдня: дзень здарыўся імглісты й халодны. Толькі выйшаў з пакойчыку, як дзьверы трахнулі й замкнуліся аўтаматычна, а ключа ў мяне ня было, дык ня мог вярнуцца на месца. Затое запасны ключ меў гаспадар. Прашу яго, каб даў мне ключ або адамкнуў сам. Аднак ён адказаў: «Ключа няма! Ідзі, куды хочаш». Так я апынуўся на вуліцы — ў піжаме і хворы... Тут чужыя людзі знайшлі мяне й далі апеку: заклікалі паліцыю, а яна — амбулянс і так чужыя людзі давезьлі мяне ў шпіталь у Эльмгурст, на Квінсе — Нью Ёрку. Пасьля шпіталя адвезьлі ў «Старэчы Дом».

Пацыенты тут 70, 80, 90 і 100 гадоў. Яны ня ведаюць, дзе знайшліся: кожны шукае сваіх дзяцей. Ня ведаюць дня й ночы, бо сьвятло трывае заўсёды. Я, хоць маладзейшы, таксама страціў лік днёў і часу.

У гэтым доме пацыенты на сьмяротнай дарозе, але яны знаходзяць сваіх родных. Толькі я адзін бедняк з Эўропы, які страціў усіх сяброў, апрача Францішка Б., які мяне наведвае і пацяшае: «Ня сумуй, браток, ты ўсіх тут перажывеш!» Але я з вялікай ахвотай памяняўся б з кожным кандыдатам на той сьвет.

*

Калі я ўжо дайшоў да такіх паміраючых, успомніўся мне адзін абразок з маіх малых гадоў, — у роднай вёсцы Лунях на Браслаўшчыне. Здарэньне было ў дзень Усіх Сьвятых.

У нашай вёсцы школа была за рэчкай, недалёка ад магільніку. Я часта любіў па школе пайсьці на магільнік — не на тое, што думаў аб сьмерці; але толькі, каб адгаварыць пацеры за ўсіх памёршых і нарваць кветак і паставіць іх у хаце перад Маткай Боскай. Але ў гэты дзень я прыйшоў не па кветкі, але лучыўся з людзьмі, якія маліліся за памёршых.

Вось бачу я, як над магілай, яшчэ нядаўна ўладжанай, на якой былі нядаўна завяўшыя кветкі, стаяла маладая жанчына, а халодны лістападавы вецер разьвяваў ейны чорны вэлён. Ейныя вочы былі чырвоныя ад сьлёзаў: смутна і безнадзейна яна глядзела на магілу; а над ёй праплывалі цёмныя хмары, гнаныя злосным ветрам.

Здавалася, што яна не бачыць, як ейны сынок, можа 4-х гадовы хлопчык, абедзьвюма рукамі згортываў зямлю з магілкі і толькі цяпер яна заўважыла, як ён пачаў нагамі адкідаць грудкі пяску і псаваў усюпрыгладжаную магілу. Яна нахілілася да дзіцяці і ціханька нешта гарорыла — аж яны пачалі спрачацца! Дык я пачуў словы хлопчыка: «Я хачу адкапаць тату! Нашто яго так закапалі?» — Дык матка пачала тлумачыць ў буйных сьлёзах: «Дзіцятка, мы ўжо яго не адкапаем, бо ён глыбока ад нас схаваны — навекі!..». Гаварыла яму, што людзі засыпалі яго зямлёй.

У гэтым пачуліся галасы людзей, якія ўваходзілі на магільнік. Дык хлопчык крыкнуў: «Мама, уцячом! Бо людзі і нас закапаюць і нашую Ганульку закапаюць...».

А тымчасам маленькая дзяўчынка, што спакойна ляжала ў вазку, лавіла лісточкі, што наносіў вецер, зрываючы іх з дрэваў. Дзіця гуляла й сардэчна сьмяялася да маткі й да брацікa.

Тут матка раптоўным рухам сарвалася з месца: аднэй рукой схапіла вазок з дачушкай, а другой трымаючы хлопчыка, папхнула вазок прад сабою і так жалобная сям'я адыйшла да брамы.

Хлопчык яшчэ пасьпеў аглянуцца на мяне і я заўважыў ягоныя блакітныя вочкі, у якіх быў сполах і здзіўленьне, што прычыніла сьмерць з татам і што нягодныя людзі закапалі яго тут і глыбока засыпалі зямлёй?

Памалу я падыйшоў да магілкі, паправіў раскіданую зямлю і палажыў на магілу скіняныя вяночкі; а прытым за гэтага нябожчыка, мужа гэтай няшчаснай удавы і бацьку гэтых бедных сіротак я памаліўся: «Вечны супакой дай яму, Божа, а векавечная сьветласьць няхай яму сьвеціць!». Пры гэтым я ўспомніў і свайго тату, якога я ніколі не бачыў, бо я нарадзіўся, калі майго бацьку забралі на вайну і няведама, што з ім сталася: мусіць зложыў сваю галаву на расейскім фронце і магіла яго недзе забытая? . . Дык я тут маліўся і за свайго бацьку.

Устаў я з малітвы — аж бачу, як старэнькая бабулька, згорбленая векам і горам, несла ў руках вялізны вянок. Праходзіць яна ад магілкі да магілкі, шукаючы сваей. Хачу ёй памагчы, бо мне здаецца, што яна не бачыць, дзе надпісана фамілія памёршага. Кажу ёй: «Вашэціны вочы ня зусім добра бачуць, дык я памагу знайсьці». Але яна жалосна адказвае: «Ах, мой родны сынок супачывае недзе ў няведамай краіне, дык я кожны раз на Усе Сьвятыя ускладаю вяночак на якой-небудзь апушчанай магіле і я думаю, што Бог накажа **майму сыночку, што я** яго не забываюся».

Я ж тады падумаў, што Бог яму пакажа больш яшчэ, — ня гэты вяночак бабулькі, але гадзіну зьмёртвых-устаньня, бо Хрыстос сказаў: «Прыйдзе гадзіна, што мёртвыя ўстануць з гробу . . .». Дык устануць і тыя, што ляжаць у чужой зямлі, або ў глыбокім акіяне, ці ў прыгожай магіле з кветкамі . . .

Успамінаю я і сваю родную матку, якая чакала мяне і пісала: «Хачу на цябе хоць раз паглядзець, а тады спакойна памерці! Аднак не дачакала: памярла без мяне і пахавана на Куцьцю 1971 г., пражыўшы 82 гады . . . «Вечны супакой дай ёй, Божа!».

Пасьля Сусьветнай вайны 1939—1945 г. тысячы беларускіх бацькоў і матак не дачакалі сваіх дзяцей, а жонкі мужоў: яны паўміралі на фронтах, ці ў палоне, або па вязьніцах ці лягерах, як нявінныя ахвяры. «Ах, добры Божачка! Дай ім усім вечны і шчасьлівы супакой . . . Аман».

Нью Ёрк, 24 верасьня 1973 г. *Б. Прытыцкі*

РІО-ДЭ-ЖАНЭЙРО, ПАЎДЗЁННАЯ АМЭРЫКА

Ліст ад д-ра Язэпа Пашкевіча

Адрас: Dr. Joseph Pashkievitch. Poste restante.
Niteroi. Estado de Rio. Brasil.

З нагоды 300 гадоў існаваньня Закону Айцоў Марыянаў вітаю ўсіх сьвятароў і братоў, якія дзе існуюць і працуюць дзеля Божае хвалы ў цяжкіх абставінах збаўленьня душ сярод бязбожнага рэжыму і праследу веры.

Пакутнае жыцьцё законнікаў, малітва і сьціплая праца пяром і словам, навучаньне веры, асабліва моладзі, прычыняецца да большае Божае хвалы — да Хрыстовае спадчыны.

Жадаю ўсей Кангрэгацыі Марыянаў памысьнасьці ў працы, Божае апекі, каб моладзь гарнулася да іх навукі і кярунку!

З пашанай др. *Я. Пашкевіч*

*

Вітаю Айцоў-братоў Марыянаў-беларусаў, суроднікаў па Бацькаўшчыне, што жывуць у Лёндане, на чале з Апостальскім Візытатарам, Біскупам Чэславам Сіповічам! Жадаю здароўя, сілы і Божае ласкі. За Вас малюся і прашу вашых малітваў за мяне.

Многа-пакутнага Айца Язэпа Гэрмановіча віншую з 60-ці гадамі сьвятарства, дастойнага багаславенства, дадзенага за кнігу «Кітай—Сібір—Масква». Гэтая кніга — памятнік злыбяды і чалавечых мукаў ад бязбожнага камунізму. Жадаю а. Гэрмановічу памыснай працы на Божай Ніве на многія годы!

*

Я сам неяк яшчэ жыву, хоць дакнёны глухатой і пакрысе сьлепну, маючы 81 год. Жывём з дачкой Ліяй. Прытым і яна хворая (нэрвова); а я стары й недалужны, але мы адно-другому неяк памагаем, ведама, у абставінах нялёгкіх. Дзякую Богу за ўсё, бо бывае і горш.

Дзякую за «Божым Шляхам»!

З пашанаю др. *Язэп Пашкевіч*

# Думкі з кніжак

Мозг чалавечы налічвае звыш 15 мільярдаў клетачак, значыць, блізка 5 разоў больш, чым людзей на сьвеце. Аднак, пакуль чалавек жыве, дый здаровы, клетачкі працуюць нязвычайна спраўна і акуратна.

Чаму мову разьвінулі толькі людзі, але ніякі тып зьвяроў, якія жывуць на зямлі далёка даўжэй і мелі таму значна больш часу для эвалюцыі?

(Тад. Фэльштын)

*

Маўчаньне і самота — гэта найбольшая роскаш жыцьця.

Маліся, як можаш, а не старайся маліцца, як ня можаш.

Толькі дзеля Бога варта жыць.

Бог даецца таму, хто аддаецца Яму.

Трудна стацца сьвятым чалавеку, які турбуецца аб сваё здароўе.

(З думак Тамаша Мэртона)

# Рэлігія ў Беларусі

У 30-х гадох беларуская Царква была разгромлена. Адраджэньне пачалося толькі пад нямецкай акупацыяй. Цяпер царкоўнае жыцьцё наскрозь параліжавана, як параліжавана ўсё вольнае жыцьцё і жыцьцё грамадзкае. Народ нават у такіх суровых адносінах, як нямецкая акупацыя, выявіў свае нацыянальныя ідэалы. Але савецкая дыктатура цяпер асабліва грозная. Яшчэ пра жыцьцё праваслаўнай царквы можна тое-сёе гаварыць і спадзявацца, але каталіцкая царква зусім загублена: каталікі не маюць сваіх біскупаў, ані духоўнае сэмінарыі, ані сваіх духоўнікаў. Яшчэ там-сям трываюць старшыя сьвятары, як астаткі польскага пэрыяду, якія вядуць набажэнства ў выняткова пакіненых касьцёлах, але вядуць вылучна па польску для беларусаў. Савецкая ўлада імкнецца (а гэтага яна не таіць), адчакаць, пакуль і тыя рэшткі духавенства вымруць, каб лічыць каталіцкую частку беларусаў зусім арэлігійнай і не дапусьціць да ніякага адраджэньня.

Паводле вестак ад турыстаў і з пісьмаў даведываемся, што нельга гаварыць аб ліквідацыі рэлігіі, бо яшчэ старое пакаленьне помніць малітвы і моліцца прыватна, а маладое цікавіцца і ў значнай частцы мроіць і жадае павароту да веры і набажэнстваў. Праявам гэтага ёсьць цяга да рэлігіі, хоць у форме сэктанскай, як баптызм і егавіцтва, хоць і іх савецкая ўлада прасьледуе да зьнемажэньня!

Праваслаўная царква паддадзена царкоўнаму цэнтру ў Маскве. Архіепіскапы зьмяняюцца вельмі часта, а Маскоўскі цэнтр прысылае ўсьцяж новых і вылучна расейцаў. Духоўная сэмінарыя ў Жыровіцах ліквідавана. Дзейнасьць сьвятароў уціскаецца, а мясцовыя ўлады выразна імкнуцца да таго, каб давесьці і праваслаўную царкву да поўнае ліквідацыі.

## МАЛІТВА СЬВЯТ. ЕФРЭМА З СЫРЫІ

*Каб вярнуліся мірныя часіны*

Куды пабягу ад Цябе, Госпадзі Божа наш? У якой краіне схаваюся ад твайго аблічча? Неба — пасад Твой; зямля — падножак Твой. А мора — шлях Твой да Валадарства Твайго. Калі ўжо блізка канец сьвету, дык няхай даканаецца пры шчодрасьці Тваей.

Ты, Госпадзі, ведаеш, што няпраўды нашыя — вялікія; а мы знаем, вялікія шчодрасьці Твае. Калі ня ўласкавяць Цябе шчодрасьці Твае, дык мы загінем за свае злачынствы.

Не пакінь нас, Госпадзі-Госпадзі, бо мы спажывалі Цела і Кроў Тваю.

Калі нашыя справы паддадуцца на Твой Суд, Госпадзі, з нашае усячыны, — то ў той час апошні, Госпадзі, на адвярні Свайго аблічча ад прызнаюшчых Святое Імя Тваё, ОЙЧА, СЫНЕ і СЬВЯТЫ ДУХУ, — Пацешыцелю, спасі нас і захавай нашыя душы.

Упрошваем, Госпадзі, Дабрату Тваю, адпусьці нам нашыя правіны, адчыні нам дзьверы Тваіх шчодрасьцяў. Госпадзі, няхай прыйдуць да нас мірныя хвіліны і паводля шчодрасьцяў Тваіх прымі міласьціва нашую малітву, бо пакутніку Ты, Госпадзі, адчыняш дзьверы.

## РЭЛІГІЯ Ў ЛІТВЕ І ЛАТВІІ

Таму, што беларусы часткова прыдзелены і да дзяржаваў Літвы і Латвіі, дык важна для нас ведаць аб палажэньні царквы ў гэтых краях.

Камуна ў Літве пастаралася зьменшыць касьцёлы і лік сьвятароў. У 1940 г. было тут 1.047 касьцёлаў: з гэтых адны былі разрушаны, іншыя спалены, перабудаваны або забраныя — разам 425. Духавенства: было 12 біскупаў і 1.450 сьвятароў, а ў 1972 было уже 2 біскупы і 804 сьвятары. Студэнтаў у сэмінарыі Каўнас было 350, цяпер лік даведзены да 30-ці! Больш нельга прыймаць у сэмінарыі. Дый кандыдатаў улада паддае пад кантроль і абработку, каб давесьці іх рознымі спосабамі да апастазіі... Даюць прыманлівыя абяцаньні, пагражаюць і страшаць. А ў 1966 г. было ў Літве 25.000 прапагандыстаў, якія заўзята працавалі, каб зглуміць рэлігію між народам.

Штогодна павялічвалі падаткі за карыстаньне з касьцёлаў. Не давалі ў сьвятыні электрычнага сьвятла, нішчылі прыдарожныя крыжы. Не давалі дазволу на рэмант сьвятыняў. Судзілі за прыгатаваньне дзяцей да споведзі і ўжываньне хлапчукоў як міністрантаў, а дзяўчатак да працэсіі дый суды-суды-суды ў абыякіх прычынах, каб сьвятаром забараніць адпраўляньне Божых службаў.

Праўда, часова зьмяншаўся прасьлед рэлігіі, калі літоўцы бунтаваліся ці востра пратэставалі, каб пасьля вярнуцца да прасьледу яшчэ вастрэйшага!

У Латвіі... прасьлед падобны. Вучні, студэнты, настаўнікі, урадоўцы, лекары і інш., якія маюць урадовую працу і службу ня сьмеюць наведываць набажэнстваў у сьвятынях. Ня могуць нават учасьнічаць на царкоўных шлюбах ці пахаронах.

Заграніцным турыстам паказываюць толькі аб'екты спэцыяльна выбраныя, якія могуць адыграць прапагандную ролю.

Спэцыяльна выхоўваюць прапагандыстаў, лектараў і іншых работнікаў культу у латыскай мове, каб служылі для прапаганды атэізму.

*

Цяпер ізноў вярнулі адложаны тэрмін: «прапаганда ваяўнічага атэізму», гэта значыць, цьвёрда стаяць на пазыцыі філязофіі Маркса і Леніна. «Ваяўнічы» — заўсёды стаіць на пазыцыі і вядзе барадзьбу каб зламаць рэлігію. Такія нялюдзкія спосабы барадзьбы, няпраўды, прасьледу, ашуканства і яны называюць «гуманізмам», хоць гэтае слова з лацінскага значыць «чалавечнасьць», якой у іх няма!

Вядзецца старанная апрацоўка веручых: падлік, гісторыя-біяграфія кожнага чалавека і прапаганда да націску і прасьледу, каб уцягнуць і прымусіць яго да атэізму. Не дапускаецца да навукі, асабліва да вышэйшых школаў, не даецца лепшай працы і авансу ў рабоце і службе, адмаўляецца розных прывілеяў і падлоўліваецца ў правінах ці пахібах. А пры агульнай рэестрацыі і наглядзе і пры сыстэме манапольнай працы і службы ёсьць тысячы спосабаў, каб веручым затруіць жыцьцё, каб натравіць на іх суседзяў і ўрадоўцаў . . . і так усё ж дайсьці да назначанай мэты — прывесьці да адрачэньня ад веры! . .

Такім спосабам спаўняецца прароцтва Самога Хрыста:

«Народ паўстане на народ і гаспадарства на гаспадарства . . . Але ўважайце на сябе, бо будуць выдаваць вас на рады і будуць біць . . . Як прывядуць вас, выдаючы, не бядуйце загадзя, што вам казаць, ані разважайце; але што дадзена вам будзе тае гадзіны, тое кажыце, бо вы ня будзеце казаць, але Дух Сьвяты. І выдасьць брат брата на сьмерць і бацька дзіця і дзеці паўстануць на бацькоў. І будуць ненавідзець вас усіх за імя Маё. Хто вытрывае да канца, будзе сбаўлёны». (Марка 13, 8-13).

«Сьцеражыцеся, каб ніхто ня зьвёў вас. Глядзіце, ня бойцеся, бо належыць усяму гэтаму быць, але гэта яшчэ не канец . . . будуць галадоўкі, мор і трасеньне зямлі ў розных месцах. Усё гэта пачатак трудадня. Тады будуць выдаваць вас на мукі і забіваць вас. Будуць вас ненавідзець усе народы за імя Маё. І тады спакусіцца шмат хто і адзін аднаго зрадзіць і зьненавідзіць. (Матэя 24, 4-10).

«Памятайце слова маё, што Я сказаў вам. Я выбраў вас са сьвету, затым сьвет ненавідзіць вас . . . Калі прасьледвалі Мяне, будуць і вас прасьледваць. Але гэта ўсё будуць рабіць вам за імя Маё, бо не знаюць Таго, хто Мяне паслаў». (Ян 15, 19-21).

«Сапраўды-сапраўды кажу вам: вы будзеце плакаць, а галасіць, але сьвет будзе цешыцца . . . але немарасьць ваша абернецца ў радасьць. І радасьці вашае ніхто ад вас не адыйме. У сьвеце будзеце мець тугу, але будзьце адважныя: Я перамог сьвет». (Ян 16, 20-33).

---

# Прыслоўі і прымаўкі

Абаранак зьясі, пакуль навокал абыйдзеш. (Аб таўсьцюхох).

Аб гэтым многа гаварыць, але мала слухаць.

Абедаў, а жывот ня ведаў: не паеў, але замурзаўся.

Абуўся ў лапці, а ў кішэні рукі дзяржыць. (Франт).

Абы Бог ды добрыя людзі, то ўсё добра будзе.

Абы дзень да вечара, калі рабіць нечага.

Абы лужа, то і качка-прачка.

Абы месяц сьвяціў, а зоркі — як хочуць.

А-бэ-цэ воўк кабылу валачэ: а за што? За нагу. Пайду яму памагу.

Ад бяды ўцёк, ды ў гора трапіў.

Аддай, братка, аддай: памрэш — ня пусьцяць у рай!

Адзін жук без яды тры гады.

Адзін і пры месяцы робіць, другі і пры сонцы сьпіць.

Адзін сынок Юзік і той як гарбузік.

Ад маіх думак другому галава не баліць.

Аднаго Юрку ўпусьцілі, а ўся хата заюрзалася.

Аднаму чорту не ўгадзі, дык усе чортам глядзяць.

Але-ж гаспадыня — два гароды, адна дыня.

Ані хлеба, ні табакі — прападаем як сабакі.

Баба з калёс, калёсы як чорт панёс.

Баба качаргу мяняла, тры дні гуляла.

Баба тады пышна, калі замуж вышла.

Бабіных груш ня руш — свае трасі, бабе нясі.

Балазе таму жыць, чыя бабка ўмее варажыць.

Баліць нага, ды ня ведаю каторая.

---

# Жарты

Вучыцель хіміі дэманстраваў у клясе ўласьціваcьці розных квасаў. «Цяпер, сказаў ён, я ўкіну ў гэты квас дву-шылінговую манэту. Ці яна распусьціцца?».

«Не», адказаў адзін з вучняў. Чаму не? ты мусіш гэта нам выясьніць».

Вучань адказаў: «Калі б гэтая манэта магла распусьціцца, дык Вы ня ўкінулі б яе ў квас...»

(Фрээ Індрас)

*

Служачы да свайго гаспадара: «Мая жонка сказала мне зьвярнуцца да Вас з просьбай аб прыбаўцы пэнсіі».

Гаспадар: «Я мушу спытацца перш сваю жонку, ці можна гэта зрабіць?».

(Т. Гэралд, Канада)

*

Судздзя да абвінавачанага: «Прызнаешся да віны?».

Падсудны: «Не, ня прызнаюся — я ня вінаваты!».

Судздзя: «Ці падсудны сядзеў калі ў турме?».

Падсудны: «Не сядзеў: я толькі першы раз украў».

(«Ле Кур'ер Франсе»)

*

Маладая дзяўчына злажыла прашэньне на месца сястры ў дзіцячым шпіталі. Кіраўнічка яе спытала: «Ці, паненка, мела калі практыку з дзецьмі?».

«Так, мела, як я сама была малым дзіцяткам».

(Оклягома, Злуч. Штаты)

*

Сям'я і гасьць селі за стол. Гаспадыня аж жахнулася, пабачыўшы, што на месцы гасця ня было ані відэльца, ані нажа. «Чаму ты не палажыла іх?» — спыталася яна сямігадовую дачушку.

«Я не палажыла, б омама сказала, што гэты госьць есьць як воўк!».

(Татлер, Лёндан)

---

ЗЬМЕСТ:



---


**Druck: „Logos" GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14**